часадзейства

*скрозь*

*вякі*

*хвіліны*

*праз*

*часадзеіць*

*“Дзеячас”*

*вычасовывае*

*дзею*

*дзеячасачасадзея*

# ГЭТА ПАДПОЛЬНАЯ ГАЗЕТА




*Малюнак Анатоля Гармазы ўзяты з газеты “15 сутак”.*

***“Дзеячас” віншуе чытачоў з Калядамі й Новым, 2009 годам і жадае шчасця, аквітнасці й волі ў шчаслівай, аквітнай і вольнай Беларусі!***

2009

# НЕ СКАРАЙСЯ НОЧЫ

***Не гаруй !***

***ПАЗНАч СяБЕ***


***Лявон Вашко шчыра дзякуе Алесю і Дзянісу Масарэнкам за тэхнічную дапамогу пры сканаванні выяваў з кніжкаў “Выбранае” Ларысы Генюш, “З маёй званіцы” Юркі Генюша, “Язэп Драздовіч”, Уладзіміру Каўшовіку, Зміцеру Кухлею за арганізацыйную дапамогу ў выданні “Дзеячасу”.***


1953

***Адзінай мэты не зракуся,***
***і сэрца мне не задрыжыць:***
***як жыць – дык жыць для Беларусі,***
***А без яе – зусім ня жыць.***

ЛАРЫСА ГЕНЮШ


Літаратурны агляд “Дзеячас” № 14 (2008).
Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдадзены ў Мастох. Самавыдавецтва. Збор 299 асобнікаў.



**Савецкая, 138, 231600 Масты, Беларусь**
**e-mail:liavonvashko@mail.ru**


*гэта падпольная газета*

# ДЗЕЯЧАС

***літаратурны агляд №14 Лявона Вашка (2008)***

# ЧАРАДЗЕЙСТВА

**Скрось вякі й праз хвіліны душа здольная часадзеіць, адкрываючы свае вечныя абсягі насустрач рухавай структуры пераменаў: імкненне структуры праз душу напаўняе свет духарэчаіснеennем. Калі скіраваць час праз нашыя душы, ён станецца беларускім – нашай крэўнай, жывой яваю.**

***У нумары***



***Пераможца Прыпынак у часе***



***Зорападарожжа***



***У паданні трэба верыць***



***Успаміны пра Ларысу Генюш***



***Над Нёмнам***

Валянціна Аксак
ружоўніца

***Твораспакметы***

***Кроніка***



***Вечначас***



***Беларусавыбар***



***Над Шчараю***



***Разам***



***Беларусы смяюцца***



***Пятнаццаць сутак – пажыццёва***



***Апрануты кароль***

***ЛАРЫСА ГЕНЮШ***

***Цуд***

***Весяліўся, смяяўся агонь,***
***чырванеў, як зара-заранiца,***
***і зграяў на ім белы мой конь,***
***і зграяў на ім мужны мой рыцар.***

***Як з паганскіх курганных часоў,***
***ішлі ўдовы на вогнішча смерці,***
***я, найболей няшчасная з ўдоў,***
***свайму рыцару кінула сэрца.***

***Ўзняўся ў неба ахвярны мой дым.***
***рос із сэрца майго агнявіцай,***
***і скрозь слёзы я бачыла ў ім,***
***як ажыў зноў конь белы і рыцар.***

***І сярод найцяжэйшых пакут***
***я паверыла сэрцам гаротным,***
***што з ахвяраў нам зродзіцца цуд,***
***што наш Рыцар і Край – несмяротны.***

## ПРОЗА ЛЯВОНА ВАШКА Ў БЕЛАРУСКІМ ДРУКУ

Празаічныя творы Лявона Вашка друкаваліся ў розных газетах і часопісах. Дэбютнае апавяданне “Пераможца” было надрукаванае ў дванаццатым нумары часопіса “Беларусь” за 1987 год. У 1989 годзе ў шостым нумары часопіс “Крыніца” апублікаваў апавяданне “Кызючка”. У 1996 годзе ў чацвертым нумары часопіса “Першацвет” было надрукаванае апавяданне “Абы ціха”. Апавяданне “7-45” апублікаванае ў 2000 годзе ў часопісе “Правінцыя” (падвойны № 1-2). У адным з нумароў газеты “Пагоня” на пачатку 1990-х гадоў надрукаванае апавяданне “Рай на зямлі”. Апавяданні пісьменніка друкаваліся на старонках “Дзеячасу” і “Маленькага сшытку Лявона Вашка”. Пераклады апавяданняў на рускую мову змяшчаліся на старонках часопіса “Нёман”.

У двзюх выдадзеных Лявонам Вашком кніжах прозы “Еўрапейскія гісторыі” (1995) і “Паэты-цары” (1997) надрукаваныя пяцьдзесят дзевяць апавяданняў.

***Лявон Вашко дэбютаваў у рэспубліканскім друку з апавяданнем “Пераможца”, якое было надрукаванае ў дванаццатым нумары часопіса “Беларусь” за 1987 год праз дбанне Ўладзіміра Арлова і Хрысціны Лялько. Дадзеная публікацыя – першапачатковая версія апавядання, без рэдакцыйных праўкаў, якія неабходна было зрабіць на той час.***

***Галоўны гярой апанаваны жарсцю гульні. Апавяданне – пра перамогу і ейныя сэнс ды кошт. Твор з шэрагам іншых пачатковых апавяданняў не ўключаўся Лявонам Вашком у ягоныя кніжкі прозы.***

# ПЕРАМОЖЦА

***апавяданне***

Пятнаццаты пайшоў паміраць. Жалудовіч апошні раз зацягнуўся, кінуў недакурак у сметніцу і ў думках сказаў: “Стой”. Пятнаццаты спыніўся супраць лузы.

– Мярцвяк, – мовіў партнёр, – бі паласатым. Шар мёртвы.

– Дзякую, сынок.

Жалудовіч у гэтае імгненне нагадваў паляўнічага, які чакае ў засадзе звера. Пятнаццаты стаяў насупраць лузы, і паласатага трэба было адрываць ад борта. Жалудовіч раптам падумаў, што більярд пачынае яму надакучаць, але ён з трывогай адагнаў гэтую думку і падышоў да паласатага. Усё ж більярд – адзінае, дзе я яшчэ застаюся пераможцам. Наташа Растова прыме, падумаў Жалудовіч і стукнуў па паласатым.

– Падыхай, – прамовіў Жалудовіч, і пятнацаты пайшоў у лузу.

– Гэта шчаслівая луза, – сказаў партнёр.

– Гэта ня луза, а Наташа Растова, – сказаў Жалудовіч і паглядзеў на мазалі ад кія.

Партнёр быў худы, не надта высокі, і тварам ён нагадваў грэнадзёра расійскага войска. Більярд знаходзіўся ў сутарэнні РДК. У невялікім памяшканні было сыра, і вапна на мурах дзенідзе счарнела. Жалудовічу ўспомнілася Масква. Дзвесце дзевяноста чатыры гады прайшло, падумаў ён, а здаецца, усё было ўчора. Вось табе і час, і заўтра мяне ня будзе. Толькі вусаты грэнадзёр закоціць у лузу некалькі шароў. Цікава, ці згадае ён Жалудовіча?

– Давай цыгарэту.

Грэнадзёр дастаў “Космас”. Тады ў пашане быў “Казбек”, падумаў Жалудовіч, і я звар’яцеў на більярдзе. Відаць, такі мой дурны лёс. Ды д’ябал з ім, маім лёсам. Хацелася б даведацца, які лёс у яе.

– Што сумуеш, Аркадзевіч? – грэнадзёр спадылба весела пазіраў на Жалудовіча.

– Я не сумую. Проста ўспомніў, як я курыў “Казбек”.

– Казалі, некалі то былі добрыя цыгарэты.

– Гэта былі папяросы.

– Розніца невялікая. Яшчэ партыю?

– Папалім, тады паглядзім.

– Я хачу выйграць, Аркадзевіч.

– Гэта натуральнае чалавечае жаданне.

Ты ніколі ў мяне не выйграеш, сынок, – падумаў Жалудовіч і прыпаліў цыгарэту. У гэтым горадзе мяне ніхто не абыграе... Ён зноў узгадаў яе, і ў галаву прыйшло недарэчнае пытанне. Што лепей: каханая жанчына ці більярд… Напэўна, яна засталася ў Маскве, і ў яе муж слесар, і яшчэ ў яе трое дзяцей.



*Часопісную ілюстрацыю да апавядання “Пераможца” зрабіў мастак Анатоль Александровіч.*

– Я пакуль пастаўлю шары, – мовіў партнёр.

– Як хочаш.

Жалудовіч паглядзеў у маленькае акенца пад столлю. Акенца напалову занесла снегам. Зіма. Трыццаць гадоў я страляў па лузах, і ўсё гэта было цікава, думаў ён, а зараз нагадваю падстаўку, якую ніхто не выме і не паставіць ля борта. Няўжо гэта ўсё?

– Аркадзевіч, у цябе шмат было баб?

– Ня меней, чым у цябе, сынок?

– І што ты з імі рабіў?

– Тое, чаму ня вучацца, сынок.

– Табе было добра ў Маскве?

– Я гуляў там у більярд.

– І ўсё?

– Не, не ўсё. Яшчэ працаваў, хадзіў у тэатр і ездзіў за горад на рыбу.

– Я балей люблю паляванне.

Я скончыў сваю бязглуздую партыю, падумаў Жалудовіч, і гэты смаркаты грэнадзёр смяецца мне ў твар.

– Хоць і рыбалка – справа неблагая. Ці ня так, Аркадзевіч?

– Магчыма. Ня думаў ніколі пра гэтае.

– Аркадзевіч, разбівай.

– Зараз. Папалім.

– Гэтым разам я ў цябе выйграю.

– Я бачу, што ты – малойца.

Зараз я зноў разаб’ю і зноў будзе, як і раней, і нічога іншага я не змагу прыдумаць. А мо кінуць усё да д’ябла, і што замест гэтага?

Жалудовіч зноў прыгадаў Маскву, той час, калі ён лічыўся някепскім музыкантам і аднойчы стаў дыпламантам рэспубліканскага конкурсу. Дыпламант

задрыпаны, падумаў ён пра сябе. Каму зараз якая справа, што ён дзесьці даўно ня змог узяць патрэбную ноту, сфальшывіў перад сабой? Часта за більярд даводзіца дорага плаціць. Гэта ў тым разе, калі табе ня шэнціць у гульні. Жалудовічу шэнціла рэдка, вось ён і ўладкаваўся ў рэстарацыю. Чамусьці зараз, прыгадаўшы тыя п’яныя вечары, споўненыя джазам, асавелымі позіркамі кабачных заўсёднікаў і зменлівымі тварамі прыдвернікаў, Жалудовіча агарнула самота. Ці не тады я сфальшывіў, падумаў ён. Сфальшывіў на чаявых, граючы пад густ усё роўна якой публікі – абы клалі грошы на барабан.

– Аркадзевіч, дзе ты цяпер працуеш? Я чуў, што з сельгастэхнікі ты пайшоў?

– Я зараз у вадаканале, сынок.

– Ну, і як работка? Колькі маеш?

– Справа не ў грашах, сынок.

– А ў чым?

– Ведаеш, чаму мне падабаецца ў вадаканале? Магу кожнага паслаць на...

Колькі гадоў таму ён ня даў бы веры, што скажа такія словы. Ён зразумеў: вадаканал – яго апошняя прыступка. Аднак можна падаць і далей, да канца, да мяжы, пасля якой забудзеш нават тое, што некалі ў філармоніі з галёркі спаважныя пані крычалі табе “брава”.

– Палі хутчэй, Аркадзевіч.

– Хутчэй ня ўмею.

Крэйды ў пакоі не было, і партнёр націраў руку аб вапну. У мяне ў запасе ня менш, як пятнаццаць гадоў, падумаў Жалудовіч, калі не патраплю пад цягнік, і мне пляваць на ўсё, толькі не на іх. Упершыню ён зразумеў, што мае так мала.

– Ты ўжо фільтр паліш, Аркадзевіч.

– На сёння досыць, сынок.

Жалудовіч пачаў апранацца.

– Вось убачыш, я ў цябе выйграю.

– Гэтага ніколі ня будзе, сынок.

Жалудовіч апрануўся і скіраваў да дзвярэй. Грэнадзёр запытаўся ў спіну.

– Ты ўзаўтра прыйдзеш?

– Не, сынок.

– Калі мы з табой згуляем?

Паліто запэцкалася ў вапну. Спіна Жалудовіча была ўся белая. Спіна зыходзіла ў дзверы і спіна адказала:

– Гадоў праз сто, сынок.

Жалудовіч падняўся па прыступках з сутарэння і выйшаў на двор. Там падаў снег. Жалудовіч крыху адышоўся ад РДК і азірнуўся на яго зацемненыя вокны. Яшчэ маю пятнаццаць год. А што пасля?

... Снегам заносіла будынкі і людзей. Быў цёмны зімовы вечар.

***Масты, 1985 год***




*Апавяданне “Пераможца” апублікаванае ў дванаццатым нумары часопіса “Беларусь” за 1987 год.*

***У** дaслоўку да апавядання, што надрукаванае ў “Беларусі”, Уладзімір Арлоў напісаў: “Першыя апавяданні Лявона Вашко пераконваюць, што іх аўтар ня з тых, для каго літаратура – гэта мімалётнае захапленне ці сваеасаблівы промысел. Лявон імкнецца да непадобнасці, да стварэння некалькіх сэнсавых узроўняў, той самай “падводнай часткі айсберга”, без якой твор літаратуры проста не існуе.*

*Веру, што Лявон Вашко з тых, хто становіцца на літаратурную сцяжыну з высокай мерай адказнасці ня толькі за сваё слова, але і за мову, якая дала ім гэтае слова, за лёс усёй беларускай культуры.”*



***Гэтае апавяданне напісанае Лявонам Вашком у 2008 годзе. Галоўны герой спрабуе спасцігнуць таямніцы часу, каб авалодаць ім. Апавяданне – пра імклівасць вечнасці.***

# ПРЫПЫНАК У ЧАСЕ

***апавяданне***



***Язэп Драздовіч. Гальшанскае гарадзішча. Выгляд з узвышша па Барунскаму тракту. 1929 год. Туш, пяро. Копія ўзятая з кніжкі “Язэп Драздовіч”.***

**П**адарожжа Анатоля Ігнатавіча са свайго сёння ў далёкае мінулае пачалося пасля апоўначы; яно адбылося амаль беспачутна: не было аніякага пафасу і ўнутранага перажывання велічы падзеі, і каструбаваты свет – быццам пераметар, і ўсё – як нішто... Анатоль Ігнатавіч падняўся з ложку неяк абыкла, якcьці заўжночна, як амаль штоцёмна падымаўся па патрэбе праз змяншэнне сакрэту ў прастаце, якая па гадох будзіла яго ўпоцемры і гнала на трубу памалому. І Анатоль Ігнатавіч падхапіўся, завёў спружыны часалёту, які стаяў на кухне пры табурэтках, сеў, газянуў попаю і часапаляцеў наперад, у сярэднявечча.

Ён перанесся на пустую дарогу з ногслядамі ў пяску, – падэшвы выпадковых старажытных мінакоў праступілі на тле міжчасу мінуўшчыны, каб тут жа знікнуць, і, пакуль былі свежыя, утульна немаведама чаму, адкульсьці з кардыяграмы старадаўняга сэрца крэпка пахлі конскімі яблыкамі й потам. Хутка насустрач зьявіўся тучаснік – чалавек быў, прыкладна, гэткага ж веку, як і Анатоль Ігнатавіч.

Іх размова тычылася шляху і коні, прастаты і часу, гісторыі і сучаснасці... Але гамана ня ладзілася: мяжа страчаных стагоддзяў і зніклых лёсаў дзяліла іх між сябе неразгаднасцю абарванага кантэксту і зблытаных сэнсаў. Сустрэчнік разумеў шлях вельмі прыземлена, утылітарна – ён кіраваў у блізкае месца, каб набыць солі; коні ў яго не было, бо ён хадзіў пешшу; сваёй прастаце ён не надаваў такой увагі, як Анатоль Ігнатавіч сваёй – магчыма, прастаты ў мужчыне таксама не прысутнічала, як і коні не было, і, верагодна цалкам, ён зусім не разумеў, што ў яго дзе знаходзіцца і ці ёсць; а час яму здаваўся замкнутым колам, у якім гісторыя паўставала проста як казка і мала чым адрознівалася ад завядзьмаранай цяпершчыны.

Разважаючы пра навакольныя дзівосы і таямніцы, ён раптам прапанаваў Анатолю Ігнатавічу памерацца дзетаробнымі органамі. Анатоль Ігнатавіч збянтэжыўся.

– Толькі чур мерацць без яйцаў! – настойваў сумоўнік са старасвеччыны; ягонае чало задуменна нахмарылася, барадатыя лаgніты прадчувальна заружавеліся, а павекі хітравата прышчуміріліся. – Давай жа, паказвай... Чаго мнесся, як Пілiп у срацы?

Твар ягоны мардзеў адмысловым выразам: чым болей імкнуўся дзядзька прыхаваць сваю хітрасць, тым больш яна

праяўлялася, вызірала са жвавых вачэй і выкапыльвалася з парэпанай ніжняй губы. Мераў ён вяровачкай у нейкай сваёй магічнай сістэме лікаў, – зараз жа высветлілася, што Анатоль Ігнатавіч свайму сустрэчніку і блізка не раўня.

Гэтае зусім бы і не пакрыўдзіла Анатоля Ігнатавіча, бо ўнутрана ён быў перакананы ў сваёй самадастатковасці, аднак злацешлівае ззянне мардзеля, абразлівыя кпіны і моташная, да дна шчырая весялосць з прычыны перамогі рабілі справу. Пераможнік радваўся як баксёр, а Анатоль Ігнатавіч не падзяляў ягоных пачуццяў, спрэчка бо іхная не была прынцыповай для Анатоля Ігнатавіча: ён зусім не хацеў мерацца і ад самага пачатку не збіраўся перамагаць, а пагатоў праігрываць, дый аб заклад яны не хадзілі й аніўчым не заракаліся. "Ну, чаго ўжо так цешыцца? – з прыкрасцю думаў Анатоль Ігнатавіч. – Нейкая бязглуздзіца, далібог."

Тым ня менш пераможца ўпіваўся перамогаю самазабыўна, ці нават подла – як быццам па шчоках Анатоля Ігнатавіча ён сцябаў пачуццём свае перавагі, а мо і самой перавагаю. Гэта так упічыла Анатоля Ігнатавіча, што нават пасля таго, як ён пакінуў зьедлівую старажыць і абудзіўся на ўскрайку імклівае цяперашчыны, навязлівая думка пра супярэчлівасць эпохаў заторгала ў клетках ягонае нярвовае сістэмы.

Анатоль Ігнатавіч пачаў сутаражна разважаць пра псіхічную структуру квантавых сякундаў і пераходаў, пра маленькія паўсюдныя агністыя духакроны, якія з выгусткаў Духу вытваралі плынныя рэчывы, насычаючы іх волею часу. Ён прыслухоўваўся да пошасту пераменаў, – ішоў на Нёман, сядаў на край цёплага касмічнага берагу і слухаў жывы рух матэрыі, з плынню якой пакрысе і паціху сам счасоўваўся ў метамарфозах вечнасці.

Ягоныя лунанні ў часалёцы вымагалі над'звычайнае засяроджанасці й мэтанакіраванасці, адбіралі шмат душы і высмоктвалі з яго собскую часаэнэргію. Але Анатоль Ігнатавіч палёты ня кідаў. Ён злётаў на клады, дзе самотна пасядзеў пры сваёй магіле – яна была забытая, зарослая, неахайная, з безыменным імем, з пачарнелым ад буцвення крыжам, з невымоўнай драмаю ў глыбіні зямлі й прамінулага жыцця, закінутая знаёмымі й сваякамі; ён падаўся дахаты, каб наругацца, і жонка, пабачыўшы яго на ганку і пачуўшы ягонае "Ну, прывет!..", ссунулася па сцяне і непрытомна паваліліся ўпоперак калідору; да дачок Анатоль Ігнатавіч не пайшоў – ці патрэбнае ім ягонае вяртанне? Ён зрабіў выгляд, што нікуды ня часалётаў – гэта быў самотны, зняверааны выгляд.

Ён пабываў на ўскрайку раю – у гарачых тропіках эдэму. Яму заманулася дакрануцца да перадпачатку свае першароднае пахібнасці, і ён дакрануўся, але перадпачатак усё адно застаўся па-за ягоным знаццём: нясцерпны сум бараніў адоймы ўсёведы, і Анатоль Ігнатавіч праз гэты знішчальны ўнутры яго, самазгубны сум узяўся зрываць з дрэваў садавіну, мадыфікаваную генамі нейкіх дзівосных футурыстычных формаў, і жаваць нясмачную, горкую мякаць забароненых ісцінаў, пакуль хтось няБАчНЫё і яСНАБОЖНЫ ня ўпэндзіў яму каленам пад зад-ягадзіцы.



*Язэп Драздовіч. Нябесныя бегі. Вільня, 1931 год. Копія ўзятая з кніжкі "Язэп Драздовіч".*

На сваёй машыне часу пабываў ён і напрыканцы







*Язэп Драздовіч. Нірвана. 1925 год. Вугаль. Копія ўзятая з кніжкі "Язэп Драздовіч".*

свету – гэта было бязлюднае нябёснае цела, чужое, быццам няроднае Анатолю Ігнатавічу, пахмурае і халоднае, з ванітлівым духам серы, з перапрэлай бясплоднай арганікай, з рэкамі смерці й кіслотным дажджом, які джаліў шыю. Але і тут чуўся подых агню; як і ў чарадзе іншых, даўнейшых скрозьдзён адчуліся яму напятыя выбуховай, ачышчальнай вогнесвабодаю мікракасмічныя элементы рэчаіснасці, – іхнае народаўладдзе амаль налілося ўжо сокам недазволенае свядомасці, у супольнай змоўнай волі яно рыхтавалася да ланцуговае рэвалюцыі сусвету: спаліць каменны прыгон гравітацыі... пераўтварыцца ў задуменную волю галактычнага туману... разліць выдумкі недазволенае свядомасці над чорным гарызонтам падзеяў...

А што нашчадкі? "У іх пад пупам гладка..." Анатолю Ігнатавічу запомніўся вірлавокі бэйбус з надзетым на галаву фільмаскопам; ён жыў нейкімі сваімі турботамі з прычыны паўсюдных думных і целаісных узаемапрасякненняў і ўзаемамутацыяў самасябе з наваколлем. Матляючы на шырокай пралысай лабаціне фільмаскопам, бы ялдою, нашчадак, зрабіў Анатолю Ігнатавічу штэпсельны аналіз:ківуком-штэкерам ён дасунуўся аж пад самую нядужую прастату і з яе цераз выхад-гузётніцу выкачаў ў флэшмозг даастатку ўсю наяўную інфармацыю; усей аграмадны і нясканечны ўнутраны свет Анатоля Ігнатавіча з ягонымі на момант штэпсельнага аналізу хваробамі, успамінамі, перажываннямі, тэмператураю і часаўзлётамі ў бяздонную скрозь дыялектыкі лёгка лёг у адзін кластэр галавастага кібербудучніка; і спогадка пра летняе рахманае сярэднявечча з таемнашляхам пяску ды свежых слядоў, і магічная вераўчаная струкамерка казачнага сустрэчніка, і кінутая ў далёкага нашчадка, насустрач яўнае адсутнасці полавых прызнакаў, раптоўная зьедлівая думка Анатоля Ігнатавіча "А мо і мне памерацца?.."– усё яно таксама ўлезла ў кластэр і заблішчэла іранічнай пасмешкаю ў запрэлым раздражнёнасцю шкле прылобнага фільмаскопу.

Кактэйль з вякоў і вечнасці, якія піў Анатоль Ігнатавіч, ня гэтак наталяў смагу, як яе будзіў; то быў невылечны псіхадэлічны алкагалізм, з кловунскай пахмельнай весялосцю сярод безнадзейнасці, паняверкі й жудасных галюцынацыяў рэальнасці; у гэтай паўсюднай чарадзе непазбежнага трагізму камічнасць жыцця падалася Анатолю Ігнатавічу мядычным лекам, анаболікам, які не лякуе, не выбаўляе, але падманвае тэрмальныя межы існавання ілюзіяй дабрашчасця. Свабода смеху ў жорсткіх прыгонных адоймах трагедыі прытупляла ў душы страх перад неадольнасцю і тым самым раскрывала палон жыцця; гэта авярожвала думкі Анатоля Ігнатавіча, унурала яго ў развагі пра субстанцыяльную форму велічы ягонага шклянога самаімгнення, якое нарадзілася з жывата бясконцага цугу старападзеяў і якое прамінуласцю, рассыпастымі падэшвамі слядоў разаб'еццa аб пыл і промні старажытнае дарогі.

Ламаючы фізічную архітэктуру часу, Анатоль Ігнатавіч чуў, як выпустошваецца, знечасоўваецца, памірае сам у сабе, і –

пачуццё трагедыі адно акрыляла ягонае існаванне, натхняла на сутыкненне з тым невядомым і жудасным, што абавязкова, наканавана яго забярэ: знутры Анатоля Ігнатавіча ў знешнясвет прарастала даўняя міфалогія, дзе самаахвярныя гяроі ў канфліктах з непераможным, пакутвалі й гінулі, але ў сваёй смерці ідэяўзвышаліся над паразаю духова і тым самым перастваралі на свой лад непераможнасць целарэчаіснасці... І ён самааддана нырае ў глыбіню душы, у самы цэнтр свае планетарнае мадэлі, і, шукаючы духакрон уласнага часу, імкнуўся спасцігнуць сутнасць дадзенай яму копіі й той інфармацыйны код, што расціражаваны па ўсіх іншых копіядухакронах вечнае ракі, – каб прачытаць, каб зразумець, каб змяніць і перапісаць, і выправіць... і запыніцца там, дзе час траціць тоеснасць з самім сабою... І любоў да памерлага ды страх прачытання, творчасці й прыпынку выцiскалі з яго кроніку смеху, і ён блазнавата смяяўся насустрач таму, чыёй воляй ён ёсць і чыю волю ён мацуе сваёй волею, і рабіў бязглуздыя ўчынкі, і глупяста часалётаў у машыне мінулабудучыні...


Язэп Драздовіч. Гара Сігнал у цырку Платона. ("Жыццё на месяцы".) 1933 год. Туш, пяро. Копія ўзятая з кніжкі "Язэп Драздовіч".

Увогуле, выгляд у Анатоля Ігнатавіча быў вельмі, вельмі блазнаваты; шмат каго смяшыла ягонае аблічча, – ён ідзе паўз катлаваны будоўлі, на якой працуе прарабам, задуменна хіхікае ўнутры свае казлінае песні й гундосіць сабе ў нос: "..н... ябачны... нё... ён.. ябачны... ё... нё... я... снабожны... я... снабожны... ы... ы... ёя..." У гэткую хвіліну смех ягонае трагедыі перадаваўся іншым, і рогат рабочых пачынаў гамярычна дрыжэць у сталёвых сістэмах будаўнічых фермаў...

І вось ужо ён пазірае на рабочых скрозь галаву далёкае птушкі, а ўжо праз імгненне ён – пясок на суседней планеце, а яшчэ праз міг – цэнтр касмічнае сістэмы на ўскрайку начнога малака, а потым – ядро падзеяў, якое ёсць вынік усіх пыльных слядоў на дарогах мінуўшчыны і ўсёй гісторыі сусвету.., а потым зноўку – Анатоль Ігнатавіч, толькі ў іншым горадзе, на іншым матарыку, дзесьці ў Антарктыдзе, і, увогуле, ня ён.., а потым – яшчэ.., а потым – зноўку.., і яшчэ... і яшчэ... Ён прыслухоўваецца да свайго напятага духакрону, гарачая энергія якога імкліва нясе яго паўз атамныя сякунды ў вечнасць ды маленькімі кропелькамі пачуццяў застаецца ў самотным плачыве прамінулых рэчаў. І так хочацца зазірнуць у свой духакрон... і прачытаць... і насуперак страху прыпыніцца... і завяршыць вечнасць часу...

***Масты-Заслаўе, 2008 год.***


Язэп Драздовіч.Трывеж. Панарама месяцовага гораду. 1932-1933 гады. Пэнзаль, алей. Копія ўзятая з кніжкі "Язэп Драздовіч".





# ЗОРАПАДАРОЖЖА

***рацэнзія***


У творчасці Язэпа Драздовіча касмічная будучыня Беларусі пачынаецца ў глыбокай беларускай мінуўшчыне.

Замчышча з паўднёва-усходняга боку. Альбом "Ліда", 1929 год. Копія ўзятая з кніжкі "Язэп Драздовіч".

***"Язэп Драздовіч". Укладальніца Тамара Габрусь. Менск, "Інфармпрагрэс", 1993. – 28 с.***

**Н**я гледзячы на невялікі аб'ём, кніжка "Язэп Драздовіч" даволі ахопна адлюстроўвае асаблівасць творчасці мастака: на старонках публікуюцца некаторыя творы графікі й жывапісу, рэзі па дрэве, прадстаўленыя цыклы "Жыццё на Марсе", "Жыццё на Месяцы", "Касмавізіі","Ліда", "Піншчына", "Вільня", падаюцца выявы ягоных дываноў, друкуюцца кніжныя ілюстрацыі зробленыя рукой майстра, урыўкі ягоных дзённікавых запісаў. У кнізе таксама змешчаныя здымак помніка, што пастаўлены Язэпу Драздовічу ў Менску (аўтар Ігар Голубеў), каментары Тамары Габрусь.

Зачапіўшыся маленствам за адрэшткі фальклорнае казачнасці XIX стагоддзя, Язэп Драздовіч ацаляе ў сваёй творчасці прамінулае чарадзейства і разам з тым ён бязмерна пашырае, глыбіць, разбурае сілаю мастацкага ўяўлення межы новага, тэхналагічнага XX стагоддзя. Касмічнай псіхадэліяй прасякнутыя ня толькі пяйзажы з іншых планетаў, але чуллівы


Падарожжы і расяленне чалавека за межамі Зямлі Язэп Драздовіч прадбачыў яшчэ да адкрыцця касмічнае эры.

Гняздо. Месячны горад непадалёку ад цырка Капернік. ("Жыццё на месяцы"). 1932 год. Акварэлі. аловак. Копія ўзятая з кніжкі "Язэп Драздовіч".

космасвет адчуваецца і ў "зямных" малюнках: проста Космас Язэпа Драздовіча – гэта таксама і Беларусь, і беларусы, і Зямля, і зямляне як частка агульнасвету.

Дыскрэтныя, рассыпаныя па свядомасці свайго часу элементы таямніцаў мастак злучае ў абрысы ашаламляльных прароцтваў – бязмежны свет неасэнсаванае душы набывае акрэсленыя каардынаты: у трыполюсе часу – мінуўшчыне, цяперашчыне і будучыні – Язэп Драздовіч утварае прынцыпова новую рэчаіснасць; першапачатак нацыянальнага ён спалучае з бяздоннем касмічнага, а вакольны знешнясвет развівае паводле законаў унутранага псіхічнага часу..; і – праз творы мастака Беларусь шукае самую сябе на шляху да міжпланетных запаветаў...

Творы Язэпа Драздовіча ня толькі ня трацяць свае актуальнасці, але з цягам гадоў робяцца яшчэ больш надзённыя й ўражлівыя. Навуковыя адкрыцці й дасягненні тэхнікі, прагрэс грамадскага жыцця, гісторыя, фотаздымкі з іншапланетных экспедыцыяў... упісваюцца ў ягоныя душавыясненні, раскрываюць шчырасць і прарочасць мастацкіх вобразаў. Навукова-тэхнічная рэвалюцыя, асваенне чалавекам Космасу, глабалізацыя, якая адно ўспатрэблівае значнасць нацыянальных культураў, станаўленне і развіццё беларускае нацыі... – пра ўсё, што адбылося і што мае адбыцца, вяшчуе мастацтва Язэпа Драздовіча.



*На пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя Язэп Драздовіч адкрыў вадарод на Марсе.*

*Штучнае мора. ("Жыццё на Марсе".) 1932 год. Акварэлі, туш, пяро. Копія ўзятая з кніжкі "Язэп Драздовіч".*




*Язэп Драздовіч афармляў першыя кніжкі маладой Беларусі.*

*Першы беларускі каляндар на 1910 год пабачыў свет у рэдакцыі газеты "Наша ніва" а 1909 годзе. Фотаздымак Міколы Купавы. Копія ўзятая з кніжкі "Язэп Драздовіч".*

Ягоная постаць – містычная і загадкавая. Знаходзячыся дзесьці наводдаллі, у ценю пераломных драматычных падзеяў, на якія багатая гісторыя першае паловы XX стагоддзя, ён тым ня менш трывала застаецца ў гісторыі; жывучы ў часаабладзе, ён над'звычай часатворчы; вымыкаючы з зямное прасторы, ён тым ня менш вельмі зямны, блізкі, чуллівы...

Сучаснасці Язэпа Драздовіча дужа патрэбны ягоны вяшчунскі талент, але ці патрэбны таленту гэты абмежаваны час? Мастак пакінуў след у шмат якіх галінах творчасці: жывапіс, скульптура, графіка, літаратура, этнаграфія і фальклярыстыка, філалогія..; ён займаўся навуковай і педагагічнай дзейнасцю; ён рабіў дэкарацыі да спяктакляў, быў ля вытокаў станаўлення беларускае кніжнае графікі – афармляў першую кніжку Канстанцыі Буйло "Курганная кветка", першы беларускі "Каляндар" на 1910 год, браў удзел у афармленні першага ў Савецкай Беларусі беларускага лемантара... Мастацкія і этнаграфічныя працы, якія Язэп Драздовіч дасылаў у Менск з акупаванае Заходняе Беларусі, неаднаразова ад'значаліся прэміямі Акадэміі навук БССР. Разам з тым ён ня здолеў прыстасавацца ані да воднае дзяржаўнае сістэмы і ўлады, якія чаргаваліся на Беларусі цягам ягонага жыцця. Творчая ўспатрэбленасць не прынесла яму асабістых выгодаў, – ён жыў у беднасці й нястачах. Каб як зарабіць грошай на фарбы і халсты, ён размалёўваў для сялянаў дываны на саматканым радне, – а той пары у вёсках існавала звычайка аздабляць жытло маляванымі дыванамі, і мастак між спрадвечных кветкавых узораў разгортваў у беларускіх хатах свой чарадзейскі Космас.



*Калі грошай на халсты і фарбы не было, Язэп Драздовіч выразаў свае карціны з дрэва.*

*Партрэт невядомага. Дрэва, рэзь, паліхром. Копія ўзятая з кніжкі "Язэп Драздовіч".*

Пра беднасць, галечу мастака сведчыць і дзённікавы запіс ад 14 кастрычніка 1933 году, які апублікаваны на старонках кнігі: "Сягоння дзень Пакрова, па ст. ст., 1 акцябра. Дзень майго ўраджэння... Рад быў памянуць гэты дзень, ды ня маю з чым. І ці прыйдзецца мне калі хоць бы раз да ад'значыць па-людску – як дзень нараджэння, як дзень асабістага свята майго?.. Беднасць... Дастаткі не пазваляюць...." Гэтая зацемка на ўскрайку галактычнага прадоння, прадвызначанага лёсу і акупаванае Беларусі – сведчанне пра высокую ступень творчае экзальтацыі мастака: запіс раскрывае дзівоснае касмічнае падарожжа Язэпа Драздовіча, у якім ніколі не хапае сродкаў на самае неабходнае дзеля самага сябе і заўсёды знаходзяцца грошы на творчасць...

Язэп Драздовіч быў адзінотнікам – але ягоная адзінота поўнілася бясконцай разнастайнасцю Сусвету. Ён быў вельмі бедны – але гэта жабрацтва адоранага неверагодным багаццем чалавека: ён валодаў Сусветам і сам дарыў нехлемяжаму наваколлю неацэнныя шэдэўры. Ён ніколі ня меў уласнага кута і проста падарожнічаў па Беларусі, ідучы ад хаты ў хату – як Бог; навошта кут, калі дом – Сусвет? Зорнае неба над беларускімі пуцявінамі – вырай творчае душы. Гэта асаблівыя дарогі... не



*Каб зарабіць грошай на фарбы і халсты, Язэп Драздовіч маляваў дываны на заказ сялянам. Так Космас уваходзіў у беларускія хаты. Сам мастак пра роспіс дываноў пакінуў наступную зацемку ў сваім дзённіку: "Ад месяца ліпеня аж да канца месяца верасня аддаюся дзеля развіцця ў народзе мастацкага эстэтычнага пачуцця і размалёўваю для запрашаючых на простым вясковым саматканым афарбаваным чорным палатне рознаўзорыстыя дываны-арэналы, з месячнымі пяйзажамі на асяродках. Ліпень, 1934 г."*

*Дыван. Месячны крывід з замкам. 1939 год. Тэмпера. Копія ўзятая з кніжкі "Язэп Драздовіч".*

для ўсіх... не для кожнага... для абраных...; то дарогі багоў і мастакоў... На адной з гэтых дарогаў Язэп Драздовіч замерз узімку 1954 году. Мастака пахавалі прыхільнікі ягонае творчасці; гэта былі беларускія сяляне, якім ён на размаляваных дыванох адкрыў свой таямнічы свет – Космас і Беларусь.



*Язэп Нарцызавіч Драздовіч (1888-1954)*

**Язэп Драздовіч нарадзіўся ў засценку Пунькі, што на Дзісеншчыне (цяпер Глыбоцкі раён) у 1888 годзе. Ён пахаваны непадалёк роднага засценку, на Ліплянскіх могілках. Сёлета чатырнаццатага кастрычніка мінулася 120 гадоў з дня яго нараджэння.**

*"Шлях вандраванняў Язэпа Драздовіча праходзіў і праз Менск. На Траецкай гары знаходзілася вышэйшая жаночая школа, у якой ён выкладаў маляванне. Паблізу тых мясцін, дзе мастак любіў блукаць, аглядаючы краявіды старога Менска, на Траецкім прадмесці яму пастаўлены помнік работы скульптара Ігара Голубева. Аўтару скульптуры ўдалося перадаць уласцівыя для творчасці Я. Драздовіча суадносіны рэальнага свету і свету фантазіі, моц яго перакананасці і любові да роднага краю. Постаць мастака-вандроўніка ў сціплай сялянскай вопратцы ўкрывае дрэва-мроя, у кроне якога груваздзяцца сілуэты знаёмых вежаў беларускіх замкаў і храмаў і фантастычныя касмічныя прывіды мастака. Назва скульптурнай кампазіцыі сімвалічная – "Вечны вандроўнік".*

*ТАЦЦЯНА ГАБРУСЬ*
*"Язэп Драздовіч". С. 27.*



*Вечны вандроўнік.*



*Менск. Выгляд з шпітальна-траецкага завулка. 1919 год. Туш, пяро.*

*Выявы ўзятыя з кніжкі "Язэп Драздовіч".*

***Кніжка "Язэп Драздовіч" пабачыла свет у Менскім выдавецтве "Інфарм-прагрэс" а 1993 годзе зборам у 5 000 асобнікаў. Укладальніца, аўтарка прадмовы і каментароў Т. Габрусь. Рэдактар Ю. Дзянісаў. Макет і афармленне мастачкі А. Жданоўскай. Кніжка надрукаваная на Менскай фабрыцы каляровага друку.***









Адзінаццатага верасня 2008 году Алесь Мікалаевіч Белакоз адсвяткаваў свой васьмідзесяцігадовы юбілей. У гэтым жа годзе споўнілася сорак гадоў заснаванаму ім Гудзеўскаму музею. "Дзеячас" віншуе юбіляра і жадае яму шмат гадоў жыцця, плёну ў ягоных пачэсных справах на карысць нашай Бацькаўшчыне.

***На здымку: Алесь Мікалаевіч Белакоз у сваім музеі. Гудзевічы, 23 кастрычніка 2002 году.***

*Гэтая замалёўка была напісаная Лявонам Вашком на заказ для газеты "Новы час" і апублікаваная там у №4 (88) за 4 – 10 лютага 2008 году.*

# ВЕЧНАЧАС

Калі Алесь Мікалаевіч Белакоз пачаў збіраць экспанаты для свайго музею, знайшлося нямала скептыкаў і крытыкаў. Вакольны свет жыў велічнай сусветагісторыяй, дзе драма чалавечых лёсаў была ўсяго толькі прыдаткам да гістарычнае ідэі, антуражам, у якім гэтая ідэя выспявала і сталела. Алесь Мікалаевіч убачыў іншую гісторыю й іншы сусвет – вечнасць пражытую душамі сваех землякоў. Лёсы гэтых людзей адбыліся дзесьці "на ўскраіне" светачасу: разам са старажытнымі багамі яны наканавана праімкнулі скрозь засень стагоддзяў, эпохаў і дзяржаваў і запыніліся цёплай мудрасцю сэрцаў у выпадковых сялянскіх рэчах. Гэтыя рэчы, знойдзеныя Алесем Мікалаевічам на "задворках" сусветагісторыі, спачатку існавалі як прыватная калекцыя настаўніка. Потым калекцыя сталася музеем пры школе, а неўзабаве ёй быў нададзены статус дзяржаўнага музею.

Сёння Гудзеўскі літаратурна-этнаграфічны музей месціцца ў некалькіх будынках, у ягоных архівах зберагаюцца тысячы экспанатаў. Тут па-ранейшаму хада часу пазначаная бясконцасцю душы, і сусветагісторыя – таямнічы беларускі лёсалетапіс. Гэта і кроніка душы самаго Алеся Мікалаевіча – аповед працы і змагання: за савецкім часам яму даводзілася неаднойчы супрацьстаяць сістэме, трываць пераследы, пераадольваць стэрэатыпы... Ды і ў сённяшніх уладнікаў ён не ў пашане – некалькі гадоў таму назад мясцовыя чыноўнікі звольнілі яго з пасады дырэктара музею...

Чар Гудзевічаў – час, які немагчыма страціць, час, які адно напаўняецца ...; тут, у музейных залях працуе заведзены Алесем Мікалаевічам генератар вечнасці, які не дае памерці жывому і ажыўляе мёртвае. Гэтая гудзеўская вечнасць раз-пораз раптоўна раскрываецца ў дагістарычных словах выпадкова пачутых на вясковай вуліцы, яна – у чыстых гуках ракі, што

нязменна з году ў год выбягае з плейстацэну, у незнішчальнасці травы колісь пасеянае кімсьці на пачатку юрскае сістэмы.... Гэтую часавітую матэрыю заўсёднае бясконцасці можна напаткаць і ў таямнічасці ўласнага жыцця, адчуўшы ў сабе працяг прамінулых лёсаў ды падкінуўшы ў імклівасць дзён некалькі ймгненняў свае душы для далейшых наступнікаў беларускае вечнасці.

## Часапамяць

***Да друку рыхтуецца новая кніжка Алеся Белакоза, якую складаюць успаміны, інтэрвію, газетныя публікацыі гудзеўскага адраджэнца. Некалькі старонкаў з будучае кніжкі публікуюцца ў гэтым нумары "Дзеячасу".***

***Алесь БЕЛАКОЗ***

# У ПАДАННІ ТРЭБА ВЕРЫЦЬ

Усё маё ранняе дзяцінства прайшло каля Нёмна: да шасці гадоў я гадаваўся ў бабулі, у вёсцы Падбараны – так яна называецца афіцыйна, а людзі кажуць Радзівонаўцы. Пазней кожнае лета мы разам з сястрой Верай прыязджалі сюды да цёткі Мані, роднай мамінай сястры. І цяпер, як толькі бываю ў Радзівонаўцах, кірую да Нёмна. Наша славутая рака з кожным годам набліжаецца да вёскі. Выйдзеш з хаты – і вось ён, твой любы Нёман...



*Восьмы клас 3 Беларускай Наваградзкай гімназіі. Вера Белакоз, сястра Алеся Мікалаевіча, другая злева ў першым радзе. Каля дошкі стаіць дырэктар гімназіі Барыс Кіт. Заходняя Беларусь, Наваградак, 14 лістападу 1939 году. З архіву Алеся Белакоза, фотарэпрадукцыя Уладзіміра Каўшовіка.*

Прыгадваецца, як шмат гадоў таму назад вяртаўся з войска, а служыў я ў Джамбуле, Ленінабадзе, Тэрмезе – сямёра сутак хуткім цягнікам ехаў да Масквы. Там перасядка. Вось праплыла за вокнамі вагона калісьці беларуская Смаленшчына, потым – наша Магілеўшчына. Душа трымцела... А калі пераязджаў Нёман, заныла ў грудзях – толькі тут я адчуў, што вярнуўся ў родны край. Даводзілася бачыць паўнаводную Няву, што сухім летам выплёсквалася з берагоў, бачыў і магутны Днепр у Магілеве, і шырокую Волгу ў Астрахані, і мутную Аму-Дар'ю ў Тэрмезе, але тая даўняя сустрэча з Нёмнам выклікала асаблівыя пачуцці; у гэтых пачуццях – усё тваё, блізкае, сапраўднае: і абдымкі роднае матулі, і слёзы радасці сястры, і поціск дужай далоні сябра...

З дзяцінства памятаюцца высокі маляўнічы левы бераг Нёмна, амаль гарызантальны абсяг зялёнага правабярэжжа, шэраг рыбацкіх чаек* на вадзе, гонкі і імклівы човен хлопца, які яшчэ не збіўся на сваю чайку...; помніцца, як прыгожыя маладзіцы на беразе ад'жымаюць хусце – так у нас завецца бялізна..; помніцца прынёманскі чэрвень, калі дзеці беляць кужаль, які даўгімі, па пяцьдзесят метраў, белымі палосамі ўпрыгожвае ярка-зялёныя аселіцы з векавымі дубамі, што падпіраюць магутнымі разгалістымі кронамі высокае блакітнае неба.

Не ніцее рака дзяцінства – там, на дне тоіцца безліч неверагодных таямніцаў, а напаверхні вечная плынь, нібы паэма Якуба Коласа, раскрывае бяздань беларускіх лёсаў і вобразаў.

Мой знаёмы Лукаш Дзяшук апавёў, што яшчэ ў шасцідзесятых гадох яму ўдалося дастаць з нёманскага дна велізарны мораны дуб. Леснікі памералі і ахнулі. Гэты волат меў дваццаць восем кубічных метраў драўніны.

– З аднога дубу хату пабудуеш! – жартавалі хлопцы паводле нёмнава дару.

Выцягнуў з Нёмна агромістага дуба і Яўген Якубчык, муж маёй цёткі Мані. Ён, як і дзядзька Антось з паэмы "Новая зямля", меў залатыя рукі і кемлівы розум. У яго было ўсяго толькі пяць гектараў зямлі, але ён ніколі не бедаваў. Ягоная сям'я жыла з Нёмна: рака і карміла, і апранала, і грэла... Запас рыбы ў дзядзькі быў амаль заўсёды; ён яе шмат прадаваў, таму меў магчымасць набыць для сям'і і адзенне, і абутак. Вясною ён вылоўліваў з Нёмна бярвенні. Лепшае дрэва ішло на будаўнічы матэрыял, а крывыя і тонкія дзеравіны – на дровы. Неяк ён напілаваў з моранага дубу дошчачкаў. Яны былі цвёрдыя, як костка. З іх дзядзька зрабіў прыгожую шафу з вялікім люстрам. Яўген быў адначасова і ашчадным гаспадаром, і шчодрым чалавекам, – гэта пра яго людзі склалі жарт: маўляў, ён коліць на тры часткі запалку, каб ёю адною можна было карыстацца тройчы, а літар гарэлкі – выкарыстоўвае зараз. Але не, ён амаль не піў, аднак для госця заўсёды меў бутэльку і смажаную рыбу ды сапраўдную, рыбацкую юшку. Рыбак у наваколлі ён быў знаны.

У нядзельку мы ўсёй сям'ёю сядалі ў дзядзькаву чайку і плылі за Нёман. Там варылі юшку, лавілі і смажылі рыбу, гулялі, а насутонку слухалі песні радзівонаўскіх дзяўчат – іхныя галасы разносіліся далёка над ракою. Такога прыгожага спеву я больш нідзе і ніколі не чуў.

Нейкага разу мы заплылі на сярэдзіну Тамаў – гэтак называецца адная з нёманскіх затокаў – і ўбачылі незвычайную прыгажосць: на вадзе грэліся пад сонцам лапушыстыя лісткі гарлачыкаў, ці як кажуць у нас, збаночкаў, а за імі ваду засцілаў дыван белых лілеяў. Божа! Якое хараство! Я нахіліўся да лілеі і вырваў адну кветку. Дзядзька Яўген пазмрачнеў. Калі я пацягнуўся да другой, ён прамовіў:

– Нельга зрываць лілеі і гарлачыкі... У нас гэтак ня робяць...

– Чаму? – здзівіўся я.

Тады ён распавёў мне паданне, якое расказваў яму яшчэ ягоны дзед. Кветкі на вадзе – гэта вочы маладых дзяўчатаў, якіх забраў да сябе Нёман. Гэтыя кветкі – сувязь тапеліцаў з пакінутым светам. Калі сарвеш кветку, дык абарвецца і апошняя сувязь: больш душа дзяўчыны ніколі не пабачыць ні сонейка, ні нёманскіх берагоў, ні родных Радзівонаўцаў... Пазней ужо я даведаўся, што калі сарваць лілею, дык разам з кветкай загіне і ўся расліна. А тады, памятаю, дзядзька Яўген сказаў:

– Нічога жывога нельга калечыць. Нават сасну ці бярозу мой тата спускаў толькі зімою. "Яна цяпер спіць і нічога не чуе, – казаў ён. – А летам, нават калі лісточак сарвеш з дрэва, дык яму забаліць." Грэх расліны крыўдзіць. Яны безабаронныя.

Жыццё Яўгена Якубчыка скончылася трагічна. У 1944 годзе дзядзьку забралі на вайну, вясной 1945 году ён загінуў на фронце. Тады ж, пасля атрыманай пахаронкі захварэла цётка Маня, а праз год па смерці дзядзькі Яўгена памерла і яна. Іхны трынаццацігадовы сын Кастусь застаўся на гаспадарцы адзін. Мая матуля хацела забраць яго да нас, але дзядзькі шкадавалі бурыць гаспадарку – яны вырашылі пакінуць Кастуся на бацькаўшчыне і падсабляць яму.

**Чайка – тып нёманскае лодкі, якая выкарыстоўваецца для лоўлі рыбы, перавозкі пасажыраў і грузаў.*

Неўзабаве разгарнулася на заходняй Беларусі калектывізацыя. У 1947 годзе і ў Падбаранах пачалі ствараць калгас. Родныя дзядзькі казалі Кастусю:

– Нашто табе той калгас? Мы табе з'арэм, пасеем, сажнем, выберам бульбу... Скаціну сам дагледзіш. Затое ты сабе будзеш гаспадаром. А як жа ты будзеш у калгасе? Можа і заробіш там з фунт збожжа, але хто табе карову падоіць, хто яе выганіць, сустрэне з поля днём, хто парасятаў дагледзіць?

Кастусь у калгас не пайшоў. Яго зрабілі кулаком, абклалі вельмі высокім падаткам – ён тады называўся цвёрдым. Сплаціць цвёрды падатак тады ніхто не мог, а пагатоў сірата, якому на той час споўнілася пятнаццаць гадоў. Пачаліся арышты так званых "злосных неплацельшчыкаў".

У часе гэтых арыштаў з плачам хлопчык прыйшоў да нас. Я тады працаваў ужо настаўнікам. Напісаў ліст на чатырох старонках міністру сельскай гаспадаркі. Ліст трапіў у рукі да кагосьці разумнага. Ад падаткаў Кастуся вызвалілі, ад арышту таксама...



*Прынёманская лілея. Сярод людзей існуе павер, што калі сарваць кветку, дык загіне ўся расліна.*

Мінаюцца гады. Мне часта прыгадваецца Нёман майго дзяцінства, людзі, шмат якіх ужо няма разам з намі, і нёманская затока, і навука дзядзькі Яўгена ды сарваная мною лілея, пасля якой я зарокся ў сваім жыцці зрываць без патрэбы і лісток з галінкі... Даўно няма дзядзькі Яўгена і ягонай чайкі, няма цёткі Мані, няма маёй матулі і сястры...

Некалькі гадоў таму назад, апынуўшыся ў Падбаранах, я запытаўся ў Кастуся:

– Чаму ня стала лілеяў у Тамах?

– Людзі цяпер у паданні не вераць, – адказаў ён. – Пазрывалі кветкі, расліны загінулі...

*Гудзевічы, 2001 год*

# УСПАМІНЫ ПРА ЛАРЫСУ ГЕНІЮШ

**Н**еяк аднойчы ўлетку матуля прамовіла да мяне:

– Усё недзе бегаеш, а да крамы прыходзіла Міклашова ўнучка Ларыса.

Мае бацькі а той пары мелі ў вёсцы невялічкую крамку, і шмат хто з тутэйшых людзей прыходзіў да нас. Я ўжо ведаў тады, што дачка Антона Міклашэвіча заўсёды з усімі размаўляе па-беларуску, – мая старэйшая сястра Вера вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі і мяне таксама выхоўвала ў духу глыбокай пашаны да ўсяго роднага, беларускага.

Сям'я Антона Паўлавіча Міклашэвіча жыла ў Жлобаўцах. Гэта кіламетраў з 10 ад Гудзевічаў. У дзяцінстве мне давялося сустракацца з братамі Ларысы, бацькам. Хоць мелі яны фальварак, але жылі па-сялянску, небагата: на парабкаў ды служанак грошай у іх не было, бо адныя працэнты ад пазыкі ў банку перавышалі гадавы даход гаспадаркі. Гэткі стан адбіваўся і на свядомасці дзяўчыны: Ларыса ведала і нялёгкі сялянскі побыт, і цяжкую сялянскую працу, і прыгажосць узаемаадносінаў простых людзей; ёй было блізкае духоўнае багацце беларусаў. Памятаю, мы, дзеці, былі ўсе закаханыя ў яе, хоць бачылі рэдка і на адлегласці.

Міклашоў шанавалі ў навакольных вёсках. Калі 17 верасня 1939 года Савецкі Саюз далучыў Заходнюю Беларусь да







*Ларыса Геніюш. Заходняя Беларусь, Воўпа, 1927 год.*

***На адваротным баку здымка Ларыса Геніюш пакінула надпіс: "Мне тут 17 гадоў. Я завуся Ларыса Міклашэвіч. Вельмі люблю прыязджаць з бацькамі ў Гудзевічы да дзеда і да дзядзькоў. Бачу няволю нашага народу, многа думаю, пакрысе пішу. Прыглядаюся да жыцця навакол, чытаю, чытаю... 1927 г. Воўпа."***

***Здымак узяты з кніжкі Ларысы Геніюш "Выбраныя творы".***

Ўсходняй, былі выпадкі помсты сялян мясцовым абшарнікам. У нас нікому не прыйшла думка, каб крыўдзіць дзядзькоў ці бацькоў Міклашэвічаў. Дзядзька Ларысы Антонаўны Уладзімір Міклашэвіч да таго дажыўся, што ў ягоных дзяцей не было нават кубка малака – за даўгі ён мусіў быў аддаць апошнюю карову. Калі ў сакавіку 1940 года міліцыянты прыйшлі арыштоўваць яго, то ён не меў чаго абуць. Па гразі ад расталага весняга снегу ён пайшоў у астрог у чосанках (гэтак у нас называюць валёнкі) без галёшаў. А ён жа быў гаспадаром Гудзевічаў, меў каля 170 гектараў зямлі, лесу, сенажацяў, тарфяніку, ці як кажуць у нас багону. Ён заўсёды спрыяльна ставіўся да тутэйшых людзей і аддаваў ім за бясцэнак дрэва, торф, салому...

Памятаецца, аднойчы зайшоў да нас Валодзя Міклашэвіч, пан, мясцовы валадар. Тата пытаецца:

– Пане Міклашэвіч, як гэта ў Вас купіць з воз саломы?

– Гэтага дабра хапае, – адказаў той. – Вось вып'ем бутэльку, і – лічы, справа зроблена.

Выпілі бутэльку. За ёй выпілі другую. Пан падзякаваў ды пайшоў дахаты. Тата назаўтра пайшоў да яго, каб па-цвярозаму пагаварыць пра салому. Пан падвёў тату да стога ды кажа:

– Вось з гэтага стога і бяры, колькі дасі рады, але – на адзін воз.

Тата звярнуўся па дапамогу да аднавяскоўца Андрэя Шайногі, які ўмеў вазы класці, як ніхто. Андрэй узяў у суседа фургон, запрог пару коней і пад'ехаў раненька да нас. Тата падаваў, а Андрэй клаў на воз. Так здарылася, што Андрэй увесь стажок упакаваў у воз. Падышоў Уладзімір Паўлавіч. Нечага захваляваўся. Аббег раз вакол воза, другі. Здзіўлена запытаўся:

– А дзе стажок?

– На возе, – весела паведаміў Андрэй.

– Але ж і маладзец ты, Шайнога! Такі стог упакаваў у адзін воз... Ну, майстар!

– То што будзе, пане Міклашэвіч? – збянтэжана запытаўся тата.

– Што будзе? Што будзе? Нічога не будзе, – усміхнуўся



*Вера Белакоз (1921-1948). 1946 год.*

***Вера, старэйшая сястра Алеся Белакоза, перадала брату пачуццё пашаны і любові да ўсяго беларускага. За Польшчаю яна вучылася ў беларускай гімназіі ў Вільні, а пасля ейнага закрыцця польскімі ўладамі працягвала навучанне ў Наваградскай беларускай гімназіі. У часе вайны яна таемна вучыла беларускай мове сялянскіх дзетак у Гудзевічах – гэта быў небяспечны занятак, бо навучанне вялося паводле савецкіх падручнікаў.***

***Здымак з архіву Алеся Белакоза. Фотарэпрадукцыю зрабіў Уладзімір Каўшовік.***



*Мікалай Язэпавіч Белакоз (1890-1943), бацька Алеся Мікалаевіча, ваяваў на Першай сусветнай вайне ў кавалерыі. Здымак зроблены ў 1917 годзе перад боем, у якім ён быў цяжка паранены. Мікалай Белакоз выхоўваў сваех дзяцей у духу беларушчыны. Ён загінуў ад рук бандытаў у 1943 годзе.*

*Здымак з архіву Алеся Белакоза. Фотарэпрадукцыя Ўладзіміра Каўшовіка.*

пан. – Вязіце салому. Толькі асцярожна, бо з такім возам лёгка вывернуцца.

Бацька ўзрадавана адказаў:

– У суботу, Уладзімір Паўлавіч, прыходзьце ў госці... Запрашу і Андрэя Шайногу за яго майстэрства...

Міклашэвічы былі людзі дасціпныя і гасцінныя. А пра іх фізічную дужасць хадзілі легенды. Мой цесць Ігнат Сырэй расказваў, што бацька Ларысы Геніюш браўся зубамі за край дубовага стала і падымаў яго разам з закускамі, бутэлькамі і шклянкамі. А Яўген Петрашэвіч з Радзівонаўцаў Мастоўскага раёна апавядаў, што як яны рабілі магазын у Міклашоў, то не маглі падняць бэльку на мур. Папрасілі Антона, каб дапамог. Ён адзін ўзяўся за камель, а работнікі – утрох за верх; гэтак і паднялі. Антона Міклашэвіча людзі ведалі як волата. З сялянамі ён быў просты і шчодры, з панамі ганаровы і бескампрамісны.

Не адставалі ад яго і ягоныя браты. Аднойчы ў нашай хаце частаваўся родны дзядзька Ларысы Геніюш Павал Паўлавіч Міклашэвіч. Завіталіся яны да нас з Антонам Сямашкам. Акурат у гэты ж час зайшоў у пакой камендант паліцыі Купчак, вядомы скандаліст ды хабарнік. Сустрэў яго Павал ня дужа ветліва, але кілішак наліў і яму. Падпіўшы Купчак сказаў штосьці абразлівае пра беларусаў. Міклашэвіч схапіў паліцыянта за каўнер і дзягу і так шпурнуў у дзверы, што яны самі адчыніліся, а камендант урэзаў у бочку з газаю, якая стаяла ў складзе; бочка перавярнулася, а Купчак страціў прытомнасць.

Чалавечую годнасць, моц духу перадалі Ларысе ў спадчыну бацька Антон, ейныя дзядзькі, дзядуля Павал, пра якога і цяпер людзі расказваюць гісторыі. Ён паходзіў з малазямельных сялянаў. Але дзякуючы працавітасці, кемлівасці, ашчаднасці здолеў купіць фальварак Астапкаўшчыну, а пасля і вялікі маёнтак Гудзевічы. Ён меў больш за 550 гектараў зямлі.

Калісьці гасцінец праз Гудзевічы быў вельмі ажыўлены. Тут за дзень праязджала многа падвод. На дарозе заставалася шмат конскага гною. Бывала, стары Міклаш, ідучы дарогаю, не прапусціць ніводнага конскага яблыка – усе пазбірае ў палу кажуха. Часам хтось жартам спытае ў старога пана Міклашэвіча:

– Што знайшлі, паночку? Можа золата нясеце?

– Так, браце, – адказвае той, – гэта і ёсць золата. Толькі не кожны яго бачыць. Занясу ў стайню ды кіну конскія яблыкі ў гной. Вясной вывезем на поле, дык сотня каласоў дасць столькі збожжа, што за адзін раз не ўкусіш. А на дарозе гэты гной зусім без патрэбы.

Падумаеш, сто каласкоў вырастуць больш важкімі... Здаецца, дробязь. А вось так каласок да каласка, жменька да жменькі, сявенька да сявенькі – і малазямельны селянін стаў фальваркоўцам, а пазней і заможным панам. Вось бы сучаснаму старшыні калгасу гэткае стаўленне да гаспадаркі! Стары Міклашэвіч усю энэргію свайго прыроднага таленту накіраваў на стваральную працу: кожнаму са сваех чатырох сыноў ён пакінуў па маёнтку.





Гэтая стваральніцкая ідэя прысутнічае і ў творчасці ягонай унучкі Ларысы Геніюш, якая хацела, каб кожны беларус жыў, як пан, а не раб, каб усе мы былі заможныя і шчаслівыя, і багатыя духоўна. Праз сваю творчасць, праз жыццёвыя ўчынкі Ларыса Геніюш несла нам усім праўду пра Беларусь, асвятляла ў нас нашую свядомасць, будзіла ў нас чалавечую годнасць. Памятаецца, як яна цешылася, калі бачыла навокал сябе прыкметы чыйгосьці дабрабыту: прыгожы кветнік пры сялянскай хаце, буйную агародніну, лад на падворку...

Ад старога пана Міклашэвіча ў Гудзевічах застаўся прыгожы каменны помнік, які Павал Францавіч паставіў у 1908 годзе на скрыжаванні дарог. У 80-х гадах атэісты скінулі гэты помнік у лужыну. Вернікі паставілі яго на месца, але атэістычныя актывісты зноў скінулі яго на дарогу. Я пабаяўся, што на дарозе помнік могуць разбіць сучаснай магутнай тэхнікай. У 1985 годзе гэты помнік старшы навуковы супрацоўнік нашага музею і я схавалі ў музейным складзе. У 1990 годзе пры дапамозе майстра Івана Дзямбіцкага мы адрадзілі помнік – зноўку паставілі яго на былым месцы. На помніку высечаныя словы:

“Господи, заступи
и спаси насъ
и наши земли
отъ града
и всех напастей
— —
П. Миклошевич
1908 г.”

Пахаваны дзядуля Ларысы Антонаўны Геніюш на Гудзеўскім могільніку каля самага гасцінца. На магіле пастаўлены каменны помнік у выглядзе двух ствалоў дуба з сукамі, шурпатай карой. На камені выбітыя словы:

“Павел Францевичъ Миклашевичъ
Ск. 6 августа 1929 г.
На 85 году жизни.”

Ларыса Геніюш часта наведвала магілу дзеда, ганарылася ім. Свае цёплыя пачуцці яна перадала праз верш “Гудзевічы”, які завяршаецца радкамі:

Гудзевічы! Род мой незабыты!
Беларуская мая сям’я!
Дождж змывае з надмагільнай пліты
Дарагое дзедава імя.

Больш блізкае знаёмства з Ларысай Антонаўнай адбылося ў мяне вось з якой нагоды. У 1965 годзе мяне выклікалі ў Менск на курсы павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў раённых секцыяў беларускай мовы і літаратуры. Там сабраліся лепшыя настаўнікі Беларусі. Мне ўдалося арганізаваць сустрэчу пісьменнікаў з нашымі курсантамі. Гэта было дрэнна ўспрынята Міністэрствам народнай адукацыі, – мяне і яшчэ двух настаўнікаў выклікалі ў міністэрства, дзе правялі з намі чатырохгадзінную гутарку. Аднак намер надалей сустракацца з беларускай літаратурнай элітай мы не пакінулі. Яшчэ адна сустрэча з пісьменнікамі адбылася ў актавай залі Інстытута павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Гэта нарабіла многа шуму ў Менску – і нас датэрмінова разагналі з курсаў.

Быў травень 1965 году. У гэтым жа навучальным годзе я распачаў чыннае супрацьдзеянне знішчэнню беларускай мовы. Раней нам усюды казалі, што беларусы самі адмаўляюцца ад роднай мовы, аднак у Менску я пераканаўся, што ЦК КПБ і Міністэрства асветы ўсімі сіламі імкнуцца знішчыць беларушчыну. Трэба было неяк супрацьстаяць. Я даў заданне



*Алесь Мікалаевіч Белакоз на магіле дзеда Ларысы Геніюш – Паўла Францавіча Міклашэвіча. Гудзевічы, 23 кастрычніка 2002 году.*

вучням старэйшых класаў наладзіць паштовыя стасункі з патрыятычнымі пісьменнікамі: прасіць іх у перапісцы дасылаць у Гудзевічы выказванні пра значэнне роднай мовы, кніжкі з пажаданнямі для вучняў Гудзеўскай школы, чарнавікі твораў, здымкі... На нашы просьбы адгукнуліся Сцяпан Александровіч, Данута Бічэль-Загнетава, Васіль Быкаў, Васіль Вітка, Ларыса Геніюш, Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Дамашэвіч, Уладзімір Караткевіч, Аляксей Карпюк, Арсен Ліс, Іван Мележ, Мікола Прашковіч, Аляксей Пяткевіч, Янка Скрыган, Ніна Тарас і шэраг іншых беларускіх патрыётаў.

Ларыса Геніюш не толькі прыслала лісты, здымкі і рукапісы сваіх вершаў, але і запрасіла ў Зэльву на сустрэчу. Мая жонка Вера Ігнатаўна і я паехалі да Галавачоў – сям'і дырэктара Зэльвенскай школы-інтэрната, даўняга майго сябра, які ўжо крыху быў знаёмы з Ларысай Антонаўнай. Спадар Аляксандр Галавач разумеў, што кантакты з паэткай-патрыёткай кантралююцца адпаведнымі ворганамі, таму мы пайшлі на сутоначку. Геніюшы нас чакалі. Стол быў накрыты на шэсць асобаў і засланы саматканым абрусам, на якім ляжаў па дыяганалі саматканы доўгі і прыгожы пояс. Нас уразіла велізарная колькасць кніг у хаце. Я таксама захапляўся літаратурай і сабраў некалькі тысяч мастацкіх і навуковых кніг, аднак бібліятэка Ларысы Геніюш у некалькі разоў пераўзыходзіла маю. На сценах у хаце віселі партрэты Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы, іншых беларускіх пісьменнікаў і дзеячоў. Геніюшы зачаравалі сваёй гасціннасцю і энцыклапедычнымі ведамі. Пры гэтым яны так умела валодалі сваёй эрудыцыяй, што нам здавалася, быццам бы і мы на іх узроўні цямім у літаратуры, мастацтве, культуры і гісторыі Беларусі. Спадар Янка раз пораз патакваў нам ды паўтараў: “То вы і гэта чыталі... І з гэтым сустракаліся... І яго ведаеце...” На гэтай сустрэчы кінулася ў вочы шчырасць і гасціннасць гаспадыні. Я з дзяцінства прывучаны ў часе абеду ці вячэры посуд пакідаць чыстым. Аднак у Геніюшаў давялося парушыць гэтую завядзёнку: Ларыса Антонаўна так настойліва падкладала гасцям усё новыя і новыя закускі, што я зразумеў, тут талерка пустой не застанецца.

Гэта быў час, калі Хрушчова змяніў Брэжнеў, які ў шмат чым вяртаўся да традыцыяў сталінскага рэжыму. І мы пра гэта размаўлялі ў Геніюшаў: гаварылі пра задушэнне беларускай мовы, пра цкаванне нашых патрыётаў, пра фальсіфікацыю гісторыі, пра зацуглянасць літаратуры, пра тое, што ў Гудзевічах разбураюцца помнікі мінулага.

Потым, у годзе 1966 ці 1967, я зноўку наведаўся ў Зэльву, – Аляксей Пяткевіч папрасіў мяне пазнаёміць яго з нашаю паэткаю. І зноўку нас сустрэлі за гасцінным сталом і са шчырымі размовамі.

Часта Ларыса Геніюш бывала і ў Гудзеўскім музеі, і ў нашай гудзеўскай хаце.

Аднойчы Ларыса Геніюш прыехала да нас з настаўнікам Дзярэчынскай сярэдняй школы Пятром Марціновічам і пісьменнікам Алесем Траяноўскім. Траяноўскі, калі мы засталіся толькі ўтрох, пачаў двухсэнсоўна гаварыць пра Ларысу Антонаўну. Я заўважыў яму на непрыстойнасць гэткіх паводзінаў і параіў, каб ён пашукаў для падобных размоваў іншай кампаніі, дзе б маглі ацаніць ягоныя антыбеларускія закіды. Траяноўскі пакрыўдзіўся і пайшоў да цягніка. Але пад раніцу зноўку зьявіўся, і – адразу ж пайшоў прасіць прабачэнне ў Ларысы Антонаўны. Я ж ёй нічога не казаў. Яна дапытвалася ў мяне, што сказаў Траяноўскі, а я зрабіў выгляд, што забыўся на якуюсьці там недарэчнасць.

Бывала, Ларыса Антонаўна прывозіла ў наш музей і па дзесяць, і па пятнаццаць гасцей. Прыязджала са спадаром Янкам на хрэсьбіны майго наймалодшага сына Міхася ў 1967 годзе. На вяселле старэйшага сына яна прыслала верш-віншаванне.

Гасцяваць у Ларысы Антонаўны было небяспечна: прабудзеш суткі – не пускае, двое – тое ж самае; ад'язджаю на трэція, а яна злуе.

– Не маглі б пабыць яшчэ з дзянёк, – кажа пакрыўджана.

Аднойчы яна напісала ў лісце, што мае падвойны дыван, які выткала яе свякруха ў 1900 годзе, і запрасіла да сябе: маўляў, прыязджайце, то аддам дыван для музея.

Я ўсё кінуў ды – у Зэльву. Прабыў дзень. Не аддае дыван зямлячка. Прабыў другі дзень – не ўспамінае пра дыван. На трэці дзень ні з чым паехаў я дахаты. Праз два дні атрымаў ліст: забылася аддаць дыван – прыязджайце, то аддам. Зноўку паехаў я ў Зэльву. Прабыў тры дні, а пра дыван – ні гуку. Вярнуўся дахаты з пустымі рукамі. А праз некалькі дзён зноўку прыходзіць ліст: зусім забылася пра дыван – прыязджайце. Пішу ў адказ: не, больш не паеду, бо дывана ўсё роўна не аддасцё. Праз нейкі тыдзень сама прывезла. Тлумачыць:

– Хацела, каб Вы ў нас даўжэй пабылі.

Гасціннасць Ларысы Антонаўны ня мела межаў. Яна вельмі любіла, калі ў яе хаце госці. А між іншым, на дыване, які цяпер красуецца ў Гудзеўскім музеі, выткана “1900 рок” – па сваёй старажытнасці гэты дыван на другім месцы ў музеі і ў Беларусі, бо маем яшчэ падвойны дыван з вытканым годам: “1898”. Праўда, даводзілася бачыць на выстаўцы ў Менску дываны, якія датуюцца больш раннім часам, аднак дата на іх не вытканая, як на нашых экспанатах, і гэтая акалічнасць можа быць падставаю для сумненняў...

Ларыса Геніюш ставілася з вялікай пашанаю да беларускіх патрыётаў, аднак і сумленныя людзі, якія пакуль не дараслі да патрыятызму, таксама карысталіся ейнаю павагаю, – яна як ніхто разумела нацыянальную трагедыю беларускага народу і вельмі пакутвала праз гэта.

Часта ў Геніюшаў бываў Уладзімір Караткевіч. І адзін, і з матуляй, і з Мікалаем Прашковічам. Ларыса Антонаўна нават хацела прывезці Ўладзіміра Караткевіча на хрэсьбіны майго сына Міхася, але той заўпарціўся – маўляў без асабістага запрашэння не паедзе. Я выслаў запрашальную тэлеграму, але з пэўных абставінаў прыехаць яму не патрапіла. Ларыса Антонаўна часам ушчувала яго як маці, як старэйшы сябра. І ён да Геніюшаў ставіўся па-сыноўску.

Вельмі шанавала Ларыса Антонаўна Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Сяргея Грахоўскага, Івана Мележа, Пімена Панчанку, Аляксея Пяткевіча, іншых пісьменнікаў-патрыётаў... Асабліваe месца ў ейным жыцці займаў Максім Танк. Яна была ўдзячная Яўгену Іванавічу за клопат пра пісьменнікаў. Аднак у пэўных пытаннях яна адчувала сумненні. Мабыць, гэта было сувязана з

тым, што Максім Танк займаў значную пасаду ў партыйнай наменклатуры. Аднойчы, памятаю, яна спыталася ў мяне рады: ці паслухаць Максіма Танка, які прапанаваў ёй прыняць савецкае грамадзянства. Я адказаў, што ў прыняцці грамадзянства ёсць свае плюсы – афіцыйнае прызнанне яе як пісьменніцы, паляпшэнне матэрыяльнага становішча, але і ёсць мінусы – пагроза стаць больш залежнай ад кіраўніцтва, страціць сваё выключнае месца ў беларускай літаратуры. Спадарыня Ларыса не пайшла на кампрамісы з рэжымам – ні савецкае грамадзянства, ні членства ў саюзе пісьменнікаў яна не прыняла.

Часта я звяртаўся з просьбаю да Ларысы Антонаўны, каб яна падабрала экспанаты ў наш музей для залы, якая будзе прысвечаная ёй – я спадзяваўся, што па часе ў нас зьявіцца ўлада, якая будзе шанаваць сваіх патрыётаў.

– Як буду паміраць, то пакіну Вам шмат экспанатаў, – адказвала яна.

Памірала Ларыса Антонаўна ў Гародні, у анкалагічным шпіталі, у 1983 годзе. Мне прыйшло дзве тэлеграмы. У першай тэлеграме паведамлялася, каб ехаў па спадкі для музея. Другая тэлеграма была пра смерць Ларысы Антонаўны. Я тады ня змог паехаць ні за экспанатамі, ні на пахаванне; я сам ляжаў у шпіталі, і – лекары не адпусцілі. У наш музей экспанаты не патрапілі, – тады ўсё, што пакінула для Гудзевічаў пісьменніца, забрала адная пэўная асоба. Праўда, нявестка Ларысы Антонаўны, Валянціна Генію ш перадала нашаму музею 159 экспанатаў. Галоўным чынам гэта кніжкі з бібліятэкі Ларысы Антонаўны, ёсць партрэты Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, паяскі, ікона XIX стагоддзя на драўлянай дошцы, фігуркі, бочачкі, збаночкі... І самы галоўны экспанат – друкарка, на якой Ларыса Генію ш друкавала свае вялікія творы.

***Гудзевічы, 12 снежня 1996 году.***

***Літарачас***

# БЕЛАРУСАВЫБАР

***рацэнзія***

***Ларыса Генію ш. Выбраныя творы. Укладанне, прадмова і каментары Міхася Скоблы – Менск, “Беларускі кнігазбор”, 2000. – 616 с.***

**В**ыбар і наканаванне – дзве скрані творчасці Ларысы Генію ш, між якімі часатворыцца, духаразгортваецца бездань мастацкае, стваральнае душы. У кніжцы Ларысы Генію ш “Выбраныя творы”, якую склаў Міхась Скобла і якая пабачыла свет а 2000 годзе ў менскім выдавецтве “Беларускі кнігазбор”, адчуваецца гэтая вярэдлівая, неўпакойная сусветанеабсяжнасць творчае збуды. Пад вокладкаю кніжкі сабраныя паэзія, проза, лісты пісьменніцы, надрукаваная прадмова Міхася Скоблы і ягоныя каментары... Выбар і наканаванне – складнікі чыстай і высокай творчай свядомасці, асуджанай на дар прадбачання. Ларысе Генію ш вельмі рана адкрываецца ісціна ўласнага лёсу; “я нарадзілася такой, – піша Ларыса Генію ш ва ўспамінах пра сваё дзяцінства, – ад пялюшак ужо прасякнутай усім, што наша, з болем і прагай змагання за волю і нашую зямлю для нас”. І драма ейнага выбару – у шчырасці шляху, у немагчымасці самападману, у нздатнасці да нізкіх учынкаў...

Уласцівы для паэтычнае свядомасці свет галюцынацыяў, дзіўных знакаў і таямнічых значэнняў, якія скрозь усё жыццё непакояць Ларысу Генію ш – тая нітка Арыядны, што вядзе паэтку па небяспечным лабірынце XX стагоддзя. Гэта і постаць чорнага чалавека, пра якога неаднаразова згадвае Ларыса Генію ш у сваёй “Споведзі” – ён раз-пораз скрозь адмераны час зьяўляецца на парозе відзежаў, напаўняючы думкі й вобразы трывожным прадчуваннем бяды і раскрываючы, лёсаўрэчаісніваючы жыццёвыя катастрофы; гэта і малюнкі маленства, праз якія ўжо тады Ларыса Генію ш хвалюецца немінучасцю свайго шляху; гэта сеціва выпадковых сноў, словаў, надпісаў..., якія з рэчыва нялічаных варыянтаў і камбінацыяў вычасовываюць абрысы пакутнага падарожжа паўз лабірынт... Як чалавек адораны талентам, Ларыса Генію ш здольная чытаць гэтую кніжку псіхічных сімвалаў, адчуваць у іх свой лёс, прадбачыць... Ужо ў трыццаць дзевятым годзе ў вершы “Млын” яна прадвяшчуе:



***Ларыса і Янка Генію шы з сынам Юркам. Прага, 1940 год.***

***Здымак узяты з кніжкі Ларысы Генію ш “Выбранае”.***

Млынары чужыя,
варажосць наўкруг,
адсяваюць сіты
беларускі дух.

Меле млын высокі
ўдзень і уначы,
некаму прыдзецца
горкі хлеб пячы.

У 1942 годзе, у Празе, у вершы “Ужо даволі” яна прадвызначае выпрабаванні, якія ёй наканавана прайсці ў наступнасці, на абсягах “гулагу”:

Што было – навукай будзе,
мы ж пайдзём упярод!
Нашых сэрцаў не астудзіць
нат сібірскі лёд!

Выбар Ларысы Генію ш – гэта годны шлях у немінучасць; паэтка мужна выбірае сваё наканаванне, і наканаванне абумоўлівае ейны выбар. Гэта як Ісус Хрыстос ведае сваю трагічную будучыню, але не ўхіляецца ад яе, а свядома ідзе насустрач ёй. Мо таму, хрысціянскія матывы гучаць праз усю творчасць паэткі; чулая, жывая хрысціянская ідэя прачынаецца на самым пачатку творчасці, сярод суму і зняваг, і тугі па Беларусі, ды робіцца маральным апірышчам у будучыні – сярод пагібелі, растаптання і адчаю. Шчымлівы верш “Вячэрняя містэрыя”, што створаны ў Празе, куды вымушана перабралася Ларыса Генію ш з мужам Янкам у часе збегаў з Заходняе Беларусі з-пад польскага прыгону, напісаны спрадвечнымі хрысціянскай журботаю і беларускай тугою:

Золатам тканаю рызаю
пакрылася неба бяз хмар.
Пацеркі зораў нанізаных
вечар кладзе на алтар.

Месяц над возерам кадзіць
струменямі дымнымі зор.
Сыплюцца зоры ў прысадзе
на белы дзяўчыны прыпол.

Б’юць цені паклоны набожныя,
а лятучыя косы бяроз



***За кніжку “Ад родных ніў” і сфабрыкаваныя абвінавачванні Ларыса Геніюш была асуджаная на 25 гадоў сталінскіх лагяроў. На допытах следчыя КДБ папікалі паэтку – маўляў, гэткае напіша кожны вучань сярэдняе беларускае школы. Аднак вучні падвялі. Кніжка “Ад родных ніў” вылучаецца з агульнага шэрагу ня толькі ў беларускай літаратуры, але і ў еўрапейскай. Ейная адметнасць у апалітычнасці, у адстароненасці ад прывідных хуткацечных ідэалагічных каштоўнасцяў, у крывавую барацьбу вакол якіх былі ўцягнутыя ў свеце мільёны людзей. У кніжцы праявілася тое, што будзе надалей яскрава развітае ў творчасці Ларысы Геніюш, – вечнасць высокіх духоўных асноваў, на якіх сцвярджаецца чалавецкасць; а касмапалітызм, які закідваўся Ларысе Геніюш следчымі – насамрэч, ёсць нацыянальнае ўзнятае да вышыняў агульначалавечага, агульнасветнага.***

***Кніжка ад “Родных ніў” выдадзеная ў Празе ў 1942 годзе Беларускім Камітэтам Самапомачы ў Нямеччыне. Надрукаваная ў Нямеччыне. У 1995 годзе праз дбанне Міхася Скоблы і Сяргея Чыгрына пабачыла свет факсімільнае выданне “Ад родных ніў”. Кніжка была надрукаваная ў Слонімскай узбуйненай друкарні зборам у 3 000 асобнікаў. Фундатарам выступіла ТАА “Альгерд”, а таксама Вылянцін Дубатоўка, Віктар Каладзкі, Міхась Чапрасаў.***

атулілі крыжы прыдарожныя,
дзе плача драўляны Хрыстос.
*(1940)*

У ахапленні пранізлівага містыцызму выбар Ларысы Геніюш здзіўляе сваёй вонкавай нерацыянальнасцю і ўражвае шчырасцю ўсхваляванага сэрца; паэтка самавыбарова і наканавана робіць, з абывальніцкага пункту гледжання, не самыя ўдалыя ўчынкі, але, з вышыні вечных ісцінаў і з пункту гледжання ейнае ўнутранае, містычнае духаіснасці лёсу – толькі гэткія ўчынкі й трэба рабіць. У часе польскае акупацыі яна ня можа здрадзіць самой сабе і шчыра выбірае беларускасць, хаця можна прыстасавацца да ўмоваў, “змяніць” нацыянальнасць, і кошт ейнага выбару – прыніжэнні й вымушаныя ды патаемныя ўцёкі з Бацькаўшчыны. Можна не прымаць пасаду сакратара ўраду БНР, якую перад сканаканнем запавядае паэтцы ў Празе хворы на сухоты Васіль Захарка, старшыня Беларускай Народнай Рэспублікі – рэспублікі на той час адсутнай як дзейсная сапраўднасць, бутафорскай, але існай у сэрцах ейных нешматлікіх грамадзянаў як жывая ідэя, і – Ларыса Геніюш самаададдана ідзе насустрач апошнім пажаданням дзядзькі Васіля і прымае гэты крыж, бо “нельга браць у магілу ідэі незалежнасці нашага народу”. У акупаванай фашыстамі Празе, сярод шпегаў і правакатараў, яна, рызыкуючы жыццём, перахоўвае архівы БНР, за якімі палююць розныя разведкі, хаця можна было б гэтыя архівы прадаць з выгодаю. На допытах у КДБ у Менску, куды яе дэпартавалі з Чэхіі ў 1948 годзе, яна ня йдзе ў згавор са следчымі, якія прапануюць ёй здзелку з сумленнем, хаця гэта магло б палегчыць ейную долю. У сталінскіх лагярох яна працуе на самых цяжкіх працах, хаця і тут ёсць магчымасць прыстасавацца да ўмоваў, атрымаць больш цёплае месца. Пасля вызвалення і вымушанага жыцця ў Зэльве ёй неаднаразова прапануюць прыняць савецкае грамадзянства, што магло б матэрыяльна палегчыць жыццё яе сям'і, але яна па-ранейшаму таямніча жыве ў сваёй “няіснай” краіне, якую пакінуў ёй Васіль Захарка...

Гэта краіна паэтнае душы, напоўненай узнёслымі, чыстымі вобразамі незамучонае, святое Бацькаўшчыны; гэтая краіна – і алтар, на які паэтка прыносіць жыццё, і гаючая крыніца, якая наталяе жыццё сілаю Беларусі, і пакутны цяжар у адданым сэрцы. Пра тое верш Ларысы Геніюш “Мары”, напісаны ў 1943 годзе:





Мары мае высокія, нязбытныя,
мары мае – народу вольна жыць,
а ад мяне чакаюць чалабітнае:
душу і голаў у пояс пахіліць.

Я пахіліла б голаў заінелую –
ў час буралому хіляцца й камлі...
Душы свае, аднак, сагнуць ня смею я,
ува мне пяе душа мае ЗЯМЛІ!

Незамучоная святасць, алтарнасць Беларусі – скразная тэма творчасці Ларысы Геніюш; гэтая ўзнёслая тэма гучыць у шмат якіх вершах паэткі, гэтае ахвярнае пачуццё напаўняе яе душу ад ранняга маленства да апошніх хвілінаў жыцця.

Ты – як праўда праўд,
ўсюды свой і брат,
мовы роднае
звонкі дар.
Ты – мой шлях круты,
ты – мой боль святы,
Беларусь мая,
мой алтар.
*(“Маці мая сялянская...”, 1966)*

Асабліва яскрава і абвострана тэма самаахвярнасці й Бацькаўшчыны праявіцца ў “глюкозе” – творах, што напісаныя ў зняволенні . “Глюкозаю” вязні сталінскіх лагяроў называлі між сябе вершы Ларысы Антонаўны; “глюкоза” распаўсюджвалася па таемнай лагернай пошце і была маральнай падтрымкай для асуджаных. Гэта літаратура абсалютнага творчага раскрыцця і невычэрпнае сілы чалавечага Духу; напісаная на сцюдзёным ускрайку планеты і ўласнага знікнення паэткаю нумар “0-287”, яна між калючых дратоў, нявлі й пагібелі кажа веліч чалавечае душы.

Уставала сонца, як хвост паўліні,
над мёртвым снегам тундры бясконцай,
дзікім пажарам на небе сінім
гарэла сонца.



***Ларыса і Янка Геніюшы пасля вызвалення. 1956 год. Здымак узяты з кніжкі Ларысы Геніюш “Выбранае”.***

***На магіле мужа Ларыса Геніюш паставіла помнік з эпітафіяй: “Да сонца, асветы ўзляцеў, нібы птах, з палоскі сялянскае вузкае. Адзін у жыцці сваім зведаў ты шлях – пачэсны, цяжкі, беларускі.”***

***Ларыса і Янка Геніюшы атрымалі 50 гадоў зняволення на дваіх. У 1956 годзе іхная справа была перагледжаная ў Вярхоўным судзе БССР. Шэраг абвінавачванняў быў зняты, тэрмін пакарання зменшаны да 8 гадоў, які скончыўся ў гэтым жа, 1956 годзе. Янка Геніюш памёр у 1979 годзе. Ён быў маральнай падтрымкай для Ларысы Антонаўны, дзяліў з ёю ўсе нягоды, і жыццё без яго сталася для паэткі чарговым выпрабаваннем. Ва ўспамінах, у лістах да беларускіх дзеячоў Ларыса Геніюш шмат піша пра неабгрунтаванасць скіраваных да яе і мужа абвінавачванняў. У беларускай прэсе ўсё часцей зьяўляюцца прапановы паводле перагляду справы з мэтаю поўнага пасмяротнага апраўдання Ларысы і Янкі Геніюшаў.***

Гарэла сэрца, як Зніч адвечны,
ў дакор пагрозам белае смерці,
сілай і вераю нечалавечай
гарэла сэрца!

*(“Уставала сонца...”, 1950-1956)*

Гэта асаблівая літаратура, неканьюктурная, безганарарная, без прэміяльных і чаевых... – з падполля душы; пагранічная – праз яе пралягае відавочная мяжа творчасці, па якой канчаткова раскрываецца прыхаваны да пары сэнс жыццёвага ўсхвалявання. У гэтым апошнім распадзеле, па якім толькі шчырасць і сыход, словы звернутыя да Беларусі ўражваюць непахіснаю трываласцю сумлення, жывасвятнай праўдаю духатворчасці.

Поўнач. Сцюжа. Вясняныя святы.
Цераз бераг аж пеніцца боль.
Прада мною кірка і лапата,
але думы заўсёды з Табой.

Жоўць спаліла мне горыччу вусны,
але чара не падае з рук.
За здароўе свае Беларусі
я яе падымаю ўгару.

Як калісьці святое прычасце
з яснай чашы ля царскіх варот,
п’ю свой боль, як вялікае шчасце,
за каханы крывіцкі народ.

*(“Помню Прагу, вясняныя святы...”, 1953)*

Бесчалавечнасць, з якой сутыкнулася Ларыса Геніюш у жыцці, сталася падставаю для ўзвышэння; па пакутах, як па прыступках, Ларыса Геніюш узнялася да вышыні беларускае вечнасці.

У першыя дні вызвалення Заходняй Беларусі сям’я ейных блізкіх сваякоў была зверскі закатаваная ашалелым натоўпам у часе класавае помсты. Бацька быў забіты ў гародзенскім астрозе у часе раскулачвання. Маці памерла ў Казахстане ў часе ссылкі. Браты Расціслаў, з якім у Ларысы Геніюш была над’звычай моцная духоўная сувязь, і Аркадзь загінулі на франтох Другое сусветнае вайны, змагаючыся супраць фашызму. Сама Ларыса Геніюш праз нацыянальныя прыніжэнні мусіла тайком бегчы з Заходняй Беларусі, дзе – “...побач з беларускай галечай высокія зарплаты найніжэйшых ураднікаў і страх іх з нашага існавання.” Зьяўляючыся грамадзянкай Чэхіі, яна была вывезеная ў Савецкі Саюз і асуджаная на дваццаць пяць гадоў лагяроў. Жыццё разлучыла яе з сынам Юркам – яго выхоўвалі сёстры Ларысы Антонаўны, якія жылі ў Польшчы; сям’я Геніюшаў была вымушаная жыць ў розных краінах ды так і ня здолела аб’яднацца. Ларыса Геніюш любіла Беларусь незвычайнай, акрыленай любоўю – але Беларусь сталася для яе астрогам: пасля вызвалення з лагяроў у 1956 годзе яна з мужам мусіла жыць у Зэльве ў атмасферы нагляду, даносаў і маральных



***У** прадмове да зборніка Ларысы Геніюш “Невадам з Нёмана” Юльян Пшыркоў напісаў: “Лёс Ларысы Геніюш быў цяжкім і цярністым, нямала давялося выпіць горычы. І зараз, з філасофскай развважлівасцю ацэньваючы мінулае, паэтэса прыходзіць да вываду, што жыццё непераможнае ў сваім поступе і трэба змагацца за яго.” Кніжка “Невадам з Нёмана” пабачыла свет у Менскім выдавецтве “Беларусь” у 1967 годзе. Зборнік адрэдагаваў на грамадскіх асновах Уладзімір Караткевіч. Кніжку склалі вершы розных гадоў – прадстаўленая далагерная і паслялагерная паэзія. Аформіў выданне мастак Уладзімір Басалыга. Рэдактар А. Кудравец. Мастацкі рэдактар Н. Шырокаў. Тэхнічны рэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Ванчук. Кніжка выйшла зборам у 3 250 асобнікаў. Надрукаваная на Паліграфіным камбінаце імя Якуба Коласа.*








***У** эпіграф прадмовы да кніжкі Ларысы Геніюш “Выбранае” Міхась Скобла ўзяў словы Максіма Танка: “Вершы Ларысы Геніюш ня толькі выдатныя. Яны спалучаюць у сабе спрадвечны боль народа і боль чалавека, які з годнасцю прайшоў праз усе пякельныя выпрабаванні жыцця, чаго ў нашы часы нат не ўдавалася многім святым”. У прадмове Міхась Скобла напісаў: “Прачытанне і асэнсаванне тэкстаў Ларысы Геніюш дапаможа беларускай культуры выпрастацца, перакінуць масток над ярам духоўнага бяспамяцтва, каб злучыць раз’яднаныя пакаленні і эпохі – дзеля беларускай прышласці ў трэцім тысячагоддзі.” Кніжка “Выбранае” пабачыла свет у Менскім выдавецтве “Беларускі кнігазбор” а 2000 годзе. Галоўны рэдактар “Беларускага кнігазбору” Кастусь Цвірка, выканаўчы дырэктар – Гянадзь Вінярскі. Рэдактар Наталля Кучмель, мастак Мікалай Казлоў, тэхнічны рэдактар Алег Глекаў, карэктар Вераніка Саламевіч, кампутарны набор Міхася Скоблы, вярштаванне Алега Глекава. Кніжка выйшла зборам у 4 000 асобнікаў. Зробленая ў друкарні “Беларускі Дом друку.”*

прыніжэнняў. Бацькоўскі дом на хутары Жлобаўцы, што каля Воўпы, быў адабраны і перавезены новымі гаспадарамі ў Ваўкавыск, – Ларыса Геніюш раз-пораз прыязджала туды з Зэльвы, каб утайкі паўзірацца на яго. Яна неаднаразова звярталася да партыйнага кіраўніцтва рэспублікі з просьбаю выпусціць яе за межы СССР, але ёй так і не дазволілі выехаць. У сваех успамінах паэтка пакінула горкія словы: “...Ні адзін народ так не здзекваўся нада мною й над маёю сям’ёю, як беларускі... Ні адзін народ так не ўніжаў сваіх паэтаў, сваіх жанчын.”

Талент Ларысы Геніюш раскрываецца ў годным выбары пераадолення – яе творчасць паўстае над пакутамі, над прыніжэннямі, над наканаванай драмаю і дае адказы на галоўныя пытанні, якія і сёння надзённыя для беларусаў. У жорсткай схеме “Сталін – Гітлер: і адно, і другое нечалавечнае, і ніякай трэцяй магчымасці для народу...” Ларыса Геніюш прапануе гэтую “трэцюю” магчымасць – ясны, чысты пачатак людскасці як аснову яснай і чыстай Беларусі. З руінаў зламанага і растаптанага жыцця творчасць паэткі кажа незнішчальную глыбіню – беларускую любоў, якая жыве і духатворыць наперакор здзекам і пакутам, і беларускую мудрасць, якая здольная ў самых неспрыяльных, найгоршых умовах процістаяць духазмроку, здольная не скарацца цемры.

Я сэрца ўздым,
жыццё сваё
і вернасць,
і ўсё, чым вымяраецца любоў,
аддам табе,
пяшчотная бязмерна
пакутная зямля маіх дзядоў.

# НА ЎСЕ ЧАСЫ І ЎСЕ НАРОДЫ

***рацэнзія***

***Васіль Супрун. Незабыўныя “ксівы”:зборнік вершаў. Гарадзенскае абласное грамадскае Аб’яднанне “Ратуша”. Гародня, 1998. Гэтая рацэнзія Лявона Вашка была надрукаваная ў другім выпуску “Маленькага сшытку” ў 2000 годзе.***

**К**ніжка “Незабыўныя “ксівы” явіць свету веліч чалавечага Духу і неўтаймоўную сілу чалавечае духатворчасці; зборнік гэты, нібы заклён нарадзіўся з таемнатэксту, з перададзеных ад душы ў душу сакральных паэтных радкоў, з творчае жывапамяці насуперак занядбанню; гэтая кніжка – на ўсе часы і ўсе народы,

у ёй бо найяскравей выяўленая ідэя чалавекадухавання, урачыстававання вечнага Духу і вечнае душы насуперак знявагам, катаванням, вынішчэнням чалавечае істоты. “Незабыўныя “ксівы” складаюцца з лагернай вершаванай перапісцы, якую ў гулагаўскай няволі ўтайкі ад стражнікаў вялі між сябе Ларыса Геніюш і Васіль Супрун; напісаныя на абрыўках паперы беларускія вершы адпраўляліся па канцлагернай таемнапошце з зоны ў зону і з сэрца ў сэрца; “ксівы” прачытваліся і знішчаліся, але творы – працягвалі жыць у памяці вечна; гэтак лагерная творчасць вечнадажыла і да выдання паатычнага зборніка “Незабыўныя “ксівы”. Кожны верш у кнізе – духовы подзвіг, перамога смерці, уваскрэсіны на крыжы.




***“Незабыўныя “ксівы” (Вершы з падпольнай канцлагернай перапіскі з Ларысай Геніюш)” Васіля Супруна пабачылі свет ў Гародні а 1998 годзе. У кніжцы надрукаваныя вершы Ларысы Геніюш, а таксама вершы, прадмова і каментары Васіля Супруна. Рэдактар А. Мілінкевіч, набор і варштаванне зрабіў П. Канопкін. Мастацкае аздабленне В. Супруна і А. Сурава. Кніжка надрукаваная ў Гародні на абсталяванні Грамадскага аб’яднання “Ратуша” зборам у 299 асобнікаў.***

Кожны верш – гэта боль,
гэта крык і благанне,
гэта вера ў сябе,
падмацоўванне сіл,
можа нават адчай
ад той восені ранняй,
што прывідам брыдзе
па краёчку магіл.

Кожны верш – гэта духапераадоленне здеку і ганьбы, учыненых з чалавека, гэта тварэнне насуперак смерці яснага і чыстага паэтычнага свету, вячнейшага і магутнейшага за прывідны свет аўтаматчыкаў, калючага дроту, катаў…

Чуеш браце? –
Вецер дзіка вые.
За плячыма сочыць аўтамат.
А за дротам, быццам ноч, сумныя
вочы тысяч катаржніц-дзяўчат.

Ўжо ад маршаў забалелі ногі,
надаела зморанымі йсці.
І скажы: чаму так гора многа
нейк разом збярэцца ў жыцці?

Часта мне начамі тут здаецца,
што за мною ціха ходзіць смерць.
Я – хачу сваім трывожным сэрцам
не яе, але цябе сустрэць.

Ты працягнеш рукі, безумоўна.
Эх! далоні брацкія схавай.
Толькі сны сюды прыходзяць ў поўнач.
Я – ні сон – мяне ты не чакай.

І калі з туманнага прасоння
мой зняволены пачуеш ўздох,
абагрэй сцюдзёныя далоні,
хоць у думках на сваіх грудзёх.

“Незабыўныя “ксівы” сведчаць пра магутнавытварэнне жывасвету на руінах жыцця; там, дзе знявечаныя лёсы, глумленне з чалавечае годнасці, гвалт з асобы, паэзія нараджае Каханне; там, дзе здратаваная і задушаная радзіма канае ў немаце, паэзія вытварае святую Беларусь; там, дзе ў магілах ляжаць закатаваныя ахвяры, паэзія абуджае Жыццё і Змаганне. Вершы ў зборніку напісаныя пад святымі знакамі Пагоні і бел-чырвона-белага сцягу; мужнасць гэтае паэзіі – у нязломным жыццяцверджанні аб часе людабойства і ў духадойлідстве святое Беларусі аб пары беларусакатавання; дужа паказча, што гэткая





кніжка няскоранага творчага Духу зьявілася акурат на Беларусі і напісаная акурат беларусамі; аб часе растаптання Бацькаўшчыны ціхія і нячутныя галасы двух паэтаў тайніча ўваскрасілі знішчаную Беларусь, і гэтае – адметны, беларускі крыж, які чалавекавысіць беларуса і нараджае ягоны новы, будучы духавек.

Хрыстос ўваскрос!
І свет прачнуўся
вясной на голлечку бяроз.
Ударыў звон на Беларусі:
Хрыстос ўваскрос!
Хрыстос ўваскрос!
Хрыстос ўваскрос з крыві і болю,
каб светач праўды не пагас.
Ўваскрос Ён для крывіцкіх сёлаў,
ўваскрос Ён, брацці, і для нас.
Так, будзем помніць мы ў кайданах,
падняўшы сэрцы угару,
што так, як Бог ускрыжаваны,
ўваскрэсне наша Беларусь!

## З КНІЖКІ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ “ВЫБРАНАЕ”

***Ліст Ларысы Геніюш да Максіма Танка (Зэльва, 9 верасня 1982 году)***

*Шчыра паважаны і дарагі Максім Танк!*

*Ліст Ваш падняў мяне з ложка. Здавалася мне, што болей ня ўстану. Уколы ня дзейнічаюць. Ціск – 100 на 60, страшэнна нізкі. Выглядаю як труп. Вельмі прашу Вас маю скромную маёмасць, галоўнае: кніжкі, лісты, фатаграфіі і памяткі аддаць маім дарагім унукам. Чуюся дрэнна, як ніколі. Баюся, што гэта ня толькі стэнакардыя, як кажуць лекары. Дзякуй Вам вялікі за добрыя словы ў адрас маёй кніжкі. Яшчэ адна просьба да Вас, за якую – даруйце. Скромны і ціхі мясцовы святар жыве абы-дзе. Прапісаны ў мяне. Сям’я нігдзе не прапісана. Побач храма пастроены людзьмі царкоўны дом. Людзі ўжо звярталіся да пракурора Магільніцкага (балаціраваўся ў Зэльве). Прызналі, каб аддаць гэты дом (з царквою гэта адно цэлае) святару. Ён вялікі. У адной палове жыве нейкая буфетчыца, у другой, мусіць, трэцяя ці чацвёртая ўжо нелегальная жонка памершага летась старога святара... Усякі загад з гары*

***Кніжка выбранае прозы Юркі Геніюша “З маёй званіцы” пабачыла свет у Беластоку пасля смерці пісьменніка, у 1993 годзе. У невялікім даслоўку да зборніка Сакрат Яновіч напісаў: “Успамінаючы драматычную смерць Юркі (20 лістападу 1985 году), прыходзіць на думку і такая канстатацыя: яго згубіў нядобры час!” Кніжка выдадзеная праграмнай радаю тыднёвіка “Ніва” пры спонсарскай падтрымцы Міністэрства культуры і мастацтва Рэспублікі Польшча. Рэдактар Міраслава Лукша, тэхнічны рэдактар Аляксандар Вярбіцкі. Кампутарны набор зрабілі Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.***



***Выпрабаванні, праз якія мусілі прайсці Ларыса і Янка Геніюшы, ускосна адбіліся на лёсе сына Юркі. Ён сышоў праз два гады па скону маці, у 1985 годзе. На здымку: Ларыса Геніюш з сынам Юркам (1935-1985). Здымак узяты з кніжкі Юркі Геніюша “З маёй званіцы”.***





***Помнік Ларысе Геніюш. Зэльва, 12 снежня 2003 году.***

***Трыццатага лістападу 2003 году ў Зэльве быў адкрыты помнік Ларысе Геніюш. Ён пастаўлены на цвінтары царквы ў Зэльве з бласлаўлення ўладыкі Філарэта. Ларыса Геніюш неаднаразова выступала ў абарону святароў зэльвенскае царквы, а сваімі творчасцю і жыццём бязмежна ўзвысіла хрысціянскую ідэю. Аўтар мастак Міхась Інькоў. Доўгага часу помнік Ларысе Геніюш прастаяў на дачным участку беларускага руплівцы Анатоля Белага, з ініцыятывы якога ён быў перавезены ў Зэльву.***

*разбіваецца аб зэльвенскае начальства. Між намі кажучы – усё тут моцна закуплена. Калі Вы хоць крыху зможаце пагаварыць з прак. Магільніцкім, дык ласкава зрабеце гэта. Я бачыла, як святар плакаў, так нізка і моцна тут над ім здзекуюцца. Я ў гэтыя справы не мяшаюся, але сяння я прашу Вас дапамагчы. Няхай зэльвенцам, ціхім бабулям з сяла хоць нейкая памятка па мне застанецца. Я не звяртаю ўжо ўвагі на хату, на панадворак з іхнімі стройкамі. Хачу толькі памерці пры ўнуках і ня ў Зэльве, гдзе жывуць простыя, харошыя людзі і вось – злое начальства... Святар цяпер не бывае ў мяне, але аднойчы казаў мне: “Наколькі вас любяць людзі, настолькі вас ненавідзіць начальства...”*

*Жыццё апошніх гадоў было для мяне мукаю. Мне асабіста не памагайце. Жыць мне ўжо цяжка і надаела. Прытым баюся, каб Вы сабе не нашкодзілі, мне памагаючы. Жывіце доўга і шчасліва, дарагі Максім Танк. Рада, што мілая Любоў Андрэеўна, Вашыя дзеці і ўнукі пры Вас. Крыху сумую, што Вам ужо 70 гадоў. Выглядаеце, выступаеце, пішаце і працуеце яшчэ як малады. Добра так! Абое мы моцна любім нашую Беларусь, для Яе толькі фактычна жывём. Няхай наша спадчына толькі Ёй застанецца.*

*Я маю ўсё, Максім Танк. Маю што есці і што апрануць, але адчуваю, што з апошніх udараў мне ўжо не ачуняць... Не пераношу – зла, нізкасці, хамства і бесчалавечнасці! І Вы гэта ведаеце. Нашае ЦК на вышыні, а вось падобныя “самаўправы” прыносяць толькі ганьбу гэтай дзяржаве, а шкада, бо тут зроблена і многа патрэбнага. Заставайцеся здароў, дарагі Максім Танк (які падымае на ногі цяжка хворых). Шчыра вітайце ўсю сямейку сваю. Ваша заўсёды Ларыса Геніюш.*

***Млын***

*Меле млын высокі.*
*На сівым вяку*
*меле нашу долю,*
*меле на муку.*

*Засыпаюць ў жорны*
*жыта-Беларусь,*
*перамелюць з горам,*
*з болем ператруць.*

*Млынары чужыя,*
*варажосць наўкруг,*
*адсяваюць сіты*
*беларускі дух.*

*Меле млын высокі*
*ўдзень і уначы,*
*некаму прыдзецца*
*горкі хлеб пячы.*

*1939*



***Помнік Ларысе Геніюш (1910-1983) і Янку Геніюшу (1902-1979) усталяваны на Зэльвенскіх могілках праз дбанне беларускае нацыянальнае інтэлегенцыі. Стары помнік, што паставіла Ларыса Антонаўна мужу, лёг у падмурак новага. Зэльва, 12 снежня 2003 году.***



## Кроніка



**П**ятага жніўня 2008 году на мастоўскую сядзібу завіталіся журналісты з польскага тэлебачання Мікола Ваўранюк, Кшыштаф Вянцкоўскі, Андрэй Тафілюк. У лазне абмяркоўваліся пытанні беларускага грамадскага жыцця. Мікола Ваўранюк прывёз Лявону Вашку беларускую літаратуру, выдадзеную ў Беластоку. Лявон Вашко падарыў гасцям дванаццаты і трынаццаты нумары “Дзеячасу”.

***На здымку: (злева направа) Мікола Ваўранюк, Андрэй Тафілюк, Кшыштаф Вянцкоўскі на сядзібе ў Лявона Вашка. Масты, пятага жніўня 2008 году. Фота Ўладзімра Каўшовіка.***

## Твораспакметы



Беларуская антапогія ☞ 8

Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

Навасельскі ў Супраслі ☞ 5

PL ISSN 0546-1960

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 26 (2720) Год LIII | Беласток, 29 чэрвеня 2008 г. | Цана 2,00 зл. (VAT 0%)

**Поспехі ў навучанні мяняюць вобраз беларуса**

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

Збігнеў Клімовіч, дырэктар беластоцкай „чацвёркі", як кожны год знайшоў час, каб разам з навучэнцамі беларускай мовы адсвяткаваць канец школьнага навучальнага года:

— Ёсць такі дзень у школе, якога ўсе чакаем. Гэта дзень, калі падводзім вынікі ў навучанні, паказваем свае дасягненні. Навучэнцы беларускай мовы маюць вялікі ўклад у поспехі нашай школы.

Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ

**50-годдзе „Белавежы"**

Мінула нам ужо паўвека,
Калі мы ўсе з уздымам свежым
Пад Валкавыцкага апекай
Стварылі для сваёй бяспекі
Літаб'яднанне „Белавежа".

Нас усяго сяброў шаснаццаць
У „нiўскай" зале за сталамі,
Рашылі разам аб'ядноцца,
І з роднай мовай звязацца,
Малой айчыны быць слугамі.

Дарогай цяжкаю даволі
Праз палітычныя завеі,
Мы зерне роднае на поле
Кідалі, каб расло паволі,
І каб давала плён надзеі.

Не ўсё ў што верылі збылося,

*Пятага жніўня 2008 году ў Мастох быў* ***Мікола Ваўранюк, які прывёз з Беластоку і падарыў Лявону Вашку літаратуру выдадзеную ў Польшчы, сярод якой і нумары тыднёвіка беларусаў у Польшчы “Ніва”*** *(“Ніва”, тыднёвік беларусаў у Польшчы (№№ 20-23, №№ 25-31). Галоўны рэдактар: Яўген Вапа. Намеснік галоўнага рэдактара: Віталь Луба. Тэхнічны рэдактар: Адам Паўлоўскі. Рэдактар “Зоркі”: Ганна Кандрацюк-Свярубская. Публіцысты: Міхась Андрасюк, Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч. Канцылярыя: Галіна Рамашка. Кампутарны набор і карэктура: Яўгенія Палоцкая. Надрукаваная ў друкарне “Orthdruk”, Беласток. Выдавец: праграмная рада тыднёвіка “Ніва”. Старшыня: Яўген Вапа. Адрас рэдакцыі: 15-959 Bialystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84. Тэл./факс: (+ 48 85) 743-50-22. Internet: http://niva.iig.pl/. E-mail: redakcja@niva.iig.pl.*

**Ніваплён.** Беларускім незнікненнем поўняцца радкі беластоцкага тыднёвіка “Ніва”, як і верш паэта Дзмітрыя Шатыловіча, прысвечаны 50-годдзю літаратурнага аб’яднання “Белавежа” і надрукаваны ў дваццаць шостым нумары газеты за 2008 год; “Дарогай цяжкаю даволі праз палітычныя завеі, мы зерне роднае на поле кідалі, каб расло паволі і каб давала плён надзеі.”

---

*Дванаццатага лістападу 2008 году Лявон Вашко, апынуўшыся ў Менску, выпадкова напаткаўся на праспекце, каля крамы “Падпісныя выданні” з* ***Валянцінаю Аксак, якая***

**Кроніка**



**Д**ваццаць пятага і дваццаць шостага ліпеня 2008 году на мастоўскай сядзібе гасцяваў Сяргей Астравец. Пісьменнікі абмеркавалі пытанні беларускае літаратуры, папарыліся ў лазні, наладзілі невялікую экскурсію па Мастох і наваколлю, наведаліся ў мясціны Міхася Явара, дзе адбылося ўшанаванне паэта. Лявон Вашко падарыў Сяргею Астраўцу трынаццаты нумар “Дзеячасу”.

***На здымку: Сяргей Астравец на сядзібе Лявона Вашка. Масты, 26 ліпеня 2008 году.***

***зычліва падарыла свою новую кніжку паэзіі “Ружоўніца”***




*(“Ружоўніца”, вершы. Кніжка пабачыла свет у Менскім выдавецтве Логвінава аб 2008 годзе зборам у 300 асобнікаў. Надрукаваная ў ТДА “НоваПрынт”.)*

**Кветкавершы.** З раскіданых па снох, яве, мінуўшчыне і сучаснасці атаесамленняў расквітаюць ружы вытанчаным арнаментам беларускіх вобразаў у аранжэрэі паэтычнае кніжкі “Ружоўніца”; “Спачатку вершы раслі дзеткамі, а цяпер во – кветкамі”.

**Кроніка**




**У** верасні 2008 году на заслаўскую сядзібу Лявона Вашка завітаўся беларускі журналіст Гянадзь Барбарыч. У часе сустрэчы абмяркоўваліся пытанні літаратуры і грамадскага жыцця на Беларусі. Лявон Вашко падарыў Гянадзю Барбарычу дванаццаты нумар “Дзеячасу”.

***На здымку: Гянадзь Барбарыч на заслаўскай сядзібе.***





# НАД НЁМНАМ

## ПАМЯЦЬ ПРА МІХАСЯ ЯВАРА



***У гэтай хаце, што стаіць на беразе Нёмна, жыў Міхась Явар. Мінявічы, 26 ліпеня 2008 году. Здымак Уладзіміра Каўшовіка.***

**Д**ваццаць шостага ліпеня 2008 году ў Мастоўскім раёне адбыліся ўрачыстасці з нагоды сто пятай гадавіны з дня нараджэння прынёманскага паэта Міхася Явара. Таксама прыгадвалася і ягоная трагічная смерць – сёлета мінулася семдзесят пяць гадоў з таго часу, як ня стала паэта. Ініцыятарамі мерапрыемства выступілі мастоўскія актывісты.

На магіле Міхася Явара ў вёсцы Падбараны, а таксама каля ягонай хаты ў Мінявічах гучалі вершы паэта. Урачыстая частка скончылася сяброўскай бясёдаю на беразе Нёмна.

Ва ўшанаванні пабралі ўдзел пісьменнік з Гародні Сяргей Астравец, шчучынец Сяргей Ляшкевіч, Лявон Карповіч з Луны Мастоўскага раёну, а таксама мастоўцы Лявон Вашко, Павал Габрусевіч, Алена Зарэмбюк, Алесь Зарэмбюк, Аляксандра Зарэмбюк, Уладзімір Каўшовік, Зміцер Кухлей, Таццяна Павіна, Алег Рудабелец, Уладзімір Шчукарэвіч.

***Тэкст перадачы пра ўшанаванне памяці Міхася Явара. Перадача прагучала на радыё “Свабода”; тэкст узяты ў садзе радыёстанцыі (http://svaboda.org).***

*СЯРГЕЙ АСТРАЎЦОЎ*

## УШАНАВАННЕ ПАЭТА

**С**ёньня ў Мастоўскім раёне ўшанавалі памяць заходнебеларускага паэта Міхася Явара (Карася).



***На месцы трагедыі 1933 года адбыліся літаратурныя чытанні. Злева направа: Таццяна Павіна, Аляксандра Зарэмбюк, Алена Зарэмбюк. Мінявічы, 26 ліпеня 2008 году. Здымак Уладзіміра Каўшовіка.***

Ён пражыў толькі 30 гадоў і скончыў жыцьцё самагубствам у 1933 годзе.

**Карэспандэнт: “Мы знаходзімся ў вёсцы Мінявічы, дзе жыў паэт. Тут захаваўся таксама дом, дзе ён жыў. Побач – бераг Нёмана, тут ляжыць вялікі камень, на якім выгравіраваныя словы: “Мары Міхася Явара”. І тут жа груша, пад якой ён стрэліў сабе ў грудзі. Чаму паэт адабраў у сябе жыцьцё? Пра гэта – Алесь Зарэмбюк з Мастоў”.**

**Зарэмбюк**: “Міхась Явар хварэў на сухоты, гэта была ў тыя часы невылечная хвароба. Таксама Міхась Явар кахаў дзяўчыну, Мікулаву Янісю Іванаўну, якая таксама жыла ў гэтай вёсцы. Яна, ведаючы, што ён безнадзейна хворы, адмовілася ўзяць зь ім шлюб.

Часопіс “Шлях моладзі”, які друкаваў вершы М.Явара, зьмясьціў пра самагубства паэта наступны артыкул: “24 чэрвеня гэтага году, седзячы над берагам

*Заходняя Беларусь,*
*канец 1920-х,*
*пачатак 1930-х гадоў.*

*Праменні...*
*На кропельках расы жывой,*
*У траве шаўковай, маладой,*
*На дрэвах, красачках, кругом*
*Яны брыльянтавым агнём*
*Рознакалёрна зіхацяць,*
*Люстраны Нёман залацяць.*
*А ён спакойны, усё плыве,*
*І думку тайную сваю*
*Нясе кудысь у далечыню.*
*Плыве між родных берагоў*
*Праз сотні, тысячы гадоў.*
*Ён сведка прошласці нямой*
*У краіне роднай, дарагой,*
*Дзе не адзін мінуўшы век,*
*Рабілі гвалт, чынілі здзек*
*Літоўскі князь і польскі пан.*
*А ён, магутны велікан,*
*Спакойны, вольны, усё жыве*
*І як калісь плыве... Плыве*
*Праз незлічоныя гады,*
*Стары і вечна малады.*

***МЈХАСЬ ЯВАР***



***Лявон Карповіч (у цэнтры) распавядае пра Міхася Явара. Злева на здымку Сяргей Астравец, справа Зміцер Кухлей. Падбаранскія могілкі, 26 ліпеня 2008 году. Здымак Уладзіміра Каўшовіка.***

Нёмана каля роднай вёскі Мінявічы Луньненскай гміны Гарадзенскага павета выстралам з рэвальвэру перарваў сабе жыцьцё малады беларускі паэт Міхась Явар. Родная сястра паэта, відаць, прадчуваючы нешта кепскае, сачыла за братам, і калі пабачыла, што ён хоча сабе адабраць жыцьцё, хацела яму ў гэтым перашкодзіць. Але было ўжо запозна, бо скіраваны ў грудзі рэвальвэр выстраліў. І хоць куля ў сэрца не папала, аднак спрычынілася да таго, што 27 чэрвеня Міхась Явар сканаў у Горадні, куды быў перавезены на лекі".

**Карэспандэнт: "Магіла паэта знаходзіцца на могілках у вёсцы Падбараны, якая бліжэй да Лунна. Як яна была знойдзена? Распавядае краязнаўца з Лунна Лявон Карповіч".**

**Карповіч:** "Магіла была згублена, месца дакладнае не было вядома. Але за справу адшуканьня месца пахаваньня М.Явара ўзяўся Алесь Мікалаевіч Белакоз. Ён апытаў сваякоў, людзей з суседніх вёсак, і на аснове іхных адказаў вызначыў месца. Арыенцір там быў, бо калісьці стаяла старая каплічка, ад якой засталіся падмуркі. Дзякуючы гэтаму на месцы пахаваньня М.Явара спачатку быў усталяваны помнік з дуба, які доўгі час вызначаў гэтае месца.

Калі старшынём райвыканкаму стаў Уладзімір Іванавіч Вашко, бацька пісьменьніка Лявона Вашка, ён да гэтай справы адраджэньня памяці аб нашых патрыётаў ставіўся вельмі добра і дапамагаў. Пры ягонай дапамозе, а таксама пры спрыяньні старшыні сельскага савета Карповіч Валянціны Мікалаеўны і мясцовых краязнаўцаў і патрыётаў на месцы дубовага помніка быў пастаўлены каменны помнік зь вершамі Міхася Явара і яго партрэтам. З той пары на гэтае месца штогод прыходзяць тыя, хто хоча ўшанаваць памяць Міхася Явара, паэта, патрыёта, сябра нацыянальных арганізацыяў – Грамады і ТБШ".



# НАД ШчАРАЮ

Дзевятнаццатага лістападу 2008 году ў Слоніме ў сямідзесяцісямігадовым веку пайшоў з жыцця Алег Антонавіч Лойка. Каб правесці паэта ў апошні шлях, у Слонім зьехаліся пісьменнікі, навукоўцы, прыхільнікі ягонае творчасці з розных куткоў Беларусі. Алег Антонавіч Лойка вызначаўся зычлівасцю і рамантычным стаўленнем да жыцця, шчырым беларускім патрыятызмам. Ягоны магутны талент адлюстраваўся ў розных галінах творчасці – паэзіі, прозе, драматургіі, сцэнарыстыцы, публіцыстыцы, перакладах, крытыцы, літаратуразнаўстве..; ягоны педагагічны дар раскрыўся на філфаку БДУ, якому ён аддаў каля пяцідзесяці гадоў працы. За час літаратурнае і навуковае дзейнасці Алег Лойка выдаў сто кніжкаў, ягоная праца ад'значаная Дзяржаўнай літаратурнай прэміяй імя Якуба Коласа (1990 год, раман "Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае"), у 1989 годзе ён быў пажыццёва абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі Навук. У літаратуры Алега Лойкі гістарычная памяць, беларускія нацыянальныя асновы яскрава раскрываюцца праз чуллівую філасофію існасці, у якой абыдзённыя зьявы і рэчы насычаныя глыбінёй парадаксальнага; навуковыя доследы Алега Антонавіча ахопліваюць шырокае кола праблемаў гісторыі, тыёрыі й практыкі літаратуры, ягоным працам уласцівыя шматграннасць, энцыклапедычнасць, яны трывала апіраюцца на грунт класічнага літаратуразнаўства. Цяжка хварэючы апошнія гады, Алег Антонавіч Лойка тым ня менш да самай смерці быў заняты літаратурнай і навуковай працаю: выступаў з творамі ў прэсе, пісаў і выдаваў кніжкі; перад скананнем ён перадаў у выдавецтва падрыхтаваны да друку матэрыял кніжкі ўспамінаў пра Ўладзіміра Караткевіча.

У сярэдзіне дзевяностых гадоў мінуластагоддзя Алег Антонавіч кіраваў навуковай працаю Лявона Вашка; на падставе доследаў і атрыманых матэрыялаў створаная кніжка "Гістарызацыя свядомасці". У другім выпуску "Маленькага сшытку Лявона Вашка" надрукаваная рацэнзія зборніку перакладаў Алега Лойкі з Фрыдрыха Шылера ("Улада песняспеву", Менск, 1997), на старонках літаратурнага агляду "Дзеячас" змяшчаліся анатацыі выдадзеных Алегам Лойкам кніжкаў.

***Спалены мост***

*Абвугленыя палі, нібы відмы...*
*Тапырацць плечы надарма быкі...*
*Жаўцее насып паўразмытай выдмай,*
*Далёка адступіўшы ад ракі,*
*А мне здалося – не туманам белым, –*
*Дрыготкім дымам цягне з быстрыні,*
*З-пад немых пнёў, з-пад камялёў згрыбелых,*
*Бы ўспышкі стрэлаў, светлякоў агні;*
*Пялёхнуў сом – здалося зноў, што выбух*
*З дна выварочвае гарачы жвір, карчы,*
*Нібы асколкі, спуджаная рыба*
*Над плынню, рыкашэцячы, імчыць...*
*Кірую лодку міма чорных паляў,*
*Вада шыпіць, спяшаецца, гудзе,*
*Выносячы ўспаміны зорным далям*
*Пра полымя на ўспененай вадзе...*

*1960*

***АЛЕГ ЛОЙКА***



***На здымку: Алег Лойка (1931-2008) на сядзібе Лявона Вашка. Масты, 30 сакавіка 2003 году.***

***НЕ ПА-ТАВАРЫСКУ***

**Улетку 2008 году Лявон Вашко зрабіў інтэрвію са Зміцерам Кухлеем, які ў Мастох вылучаўся на кандыдата ў дэпутаты ў рэспубліканскі парламент. Тэкст быў дасланы ў газету “Таварышч” – публікацыя зьявілася ў № 32 (664) за 21 жніўня 2008 году і вельмі адрозніваецца ад першапачатковага варыянту: без узгаднення з аўтарамі гутаркі таварышы “Таварышча” ня толькі значна скарацілі тэкст, але і паўпісвалі ў яго россыпы свае дадатковае, звышпланавае мудрасці. Недарэчнасць гэткага ўчынку яшчэ і ў тым, што нішчанне аўтарскага тэксту і ўпісванне мудраросыпаў адбывалася напярэдадні перадвыбарнае агітацыі: у інтэрвію гаворка ішла аб прынцыповых рэчах – фактычна, ва ўскосных формах выкладалася праграма будучага кандыдата ў дэпутаты. Ніжэйнадрукаванае інтэрвію – першапачатковая версія гутаркі, без купюраў і мудрае адсябеціны таварышаў “Таварышча”. Хоць Зміцер Кухлей не дайшоў да перадвыбарнае гонкі, аднак знішчаныя таварышамі “Таварышча” думкі, якія ён выказвае ў размове, па-ранейшаму надзённыя і вартыя публікацыі.**

# РАЗАМ

**Сённяшняя плеяда маладых палітыкаў Беларусі, да якіх належыць і дэпутат Мастоўскага раённага Савету народных дэпутатаў Беларусі Дзмітрый Кухлей, мае выразную ўласцівасць – гэта канструктыўнае, творчае стаўленне да грамадскіх справаў. У зусім нядаўняй беларускай гісторыі яшчэ помняцца моманты, калі палітычныя ініцыятывы нараджаліся ў вузкіх апазіцыйных колах, у адрыве ад грамады, і часцяком насцярожвалі сваімі неакрэсленасцю і шматсэнсоўнасцю. Сёння ў грамадскай дзейнасці палітыкаў зьяўляюцца іншыя падыходы: адкрытасць і шчырае жаданне супрацоўнічаць з грамадою на карысць Бацькаўшчыны – дадатная адметнасць маладых беларусаў. У палітыку прыходзяць людзі, для якіх свабода – не рамантызаваны вынік палітычнае дзейнасці, а інструмант, пры умелым абыходжанні з якім грамадства здольнае дасягнуць найвялікшага плёну. Гэта людзі сучаснасці, мудрые асновы якой дзейснымі гуманістычнымі ідэямі гартуюцца ў нетрах свабоды слова і выспяваюць у глыбіні “Інтэрнэту” ды на старонках самавыдавецкіх газетаў. Акурат пра гэткую дзейсную свабоду сённяшняя гутарка з Дзмітрыем Кухлеем. Яму дваццаць дзевяць гадоў. Ён жыве ў Гародзенскай вобласці, у горадзе Масты, разам са сваёй сям’ёю – жанаты, мае дваіх дзяцей. У Дзмітрыя дзве вышэйшыя адукацыі, ён скончыў Баранавіцкі дзяржаўны вышэйшы педагагічны каледж, магістратуру Еўрапейскага гуманітарнага універсітэту ў Вільні. Працаваў настаўнікам англійскай мовы ў школе, цяпер – перакладчык аддзелу знешніх эканамічных сувязяў акцыянернага таварыства “Мастоўдрэў”. Пастаянна выходзяць яго справаздачы “Разам”, стала абнаўляе сайт у “Інтэрнэце” (http://razam.net).**

***– Дзмітрый, у адмове ад пратэстных формаў дзейнасці можна ўбачыць, калі захацець, спробы супрацоўніцтва з аўтарытарнай уладай... Можа, пазітывізм – не самы лепшы шлях у тым становішчы, якім апынулася Беларусь?***

– Я бы не сказаў, што пазітыўныя падыходы ў вырашэнні праблемаў і пратэст – зьявы ўзаемавыключальныя. Пратэст можа адбывацца і ў цалкам канструктыўных формах, калі канфлікт робіцца прычынаю пераадолення складаных абставінаў, а не заводзіць процiборства ў тупік.





Вось мы з сябрамі распачалі ў Мастоўскім раёне грамадзянскую кампанію “Разам”. Сустракаемся з людзьмі, вывучаем іх думку і запатрабаванні. Задача гэтай кампаніі – павышэнне актыўнасці грамадзянаў у вырашэнні мясцовых праблемаў сумеснымі намаганнямі. Як дэпутат раённага Савету я не прапускаю магчымасць пабываць у вёсках нашага рэгіёну, стала сустракаюся з нашымі людзьмі і ў Мастах, і ў раёне. У часе гэтае кампаніі я звярнуў увагу на тое, што людзі ахвотна дзеляцца набалелым, шчыра выкрываюць недахопы як у дзеяннях мясцовых уладаў, гэтак і ў беларускай палітычнай сістэме. Аднак на прапанову сумесна вырашыць пэўнае, нават не палітычнае, а звычайнае мясцовае побытавае пытанне адказваюць адмоваю. Маю на ўвазе, яны дыстанцуюцца не ад вырашэння праблемы, а староняцца непасрэднага ўдзелу ў яе вырашэнні: ня супраць, каб праблемнае пытанне было вырашанае, але – каб яно вырашылася кімсьці іншым, без іх удзелу. Прычынаў гэткае супярэчнасці я бачу некалькі. Па-першае, вядома ж, людзі запалоханыя: яны адчуваюць уціск з боку чынавенства і начальства і, каб не патрапіць пад прэс, пазбягаюць актыўных дзеянняў, хоць і з разуменнем, цвяроза ставяцца да свайго паняволенага становішча. Па-другое, я назіраю поўны недавер да ворганаў мясцовае ўлады – і гэта зразумела: які можа быць давер да ўлады, якая зьяўляецца інструмантам уціску. Да таго ж, гэтае адбываецца на фоне нізкага аўтарытэту мясцовых Саветаў: большасць дэпутатаў раённага Савету – прадстаўнікі наменклатуры, якую кантралюе райвыканкам; у гэткім становішчы патрабуецца вялікая мужнасць, каб галасаваць наперакор спушчаным зверху ініцыятывам, і, як правіла, гэткае мужнасці ў большасці нестае. У шматлікіх размовах з жыхарамі вёсак даводзіцца чуць скептыцызм і недавер да дэпутатаў мясцовых Саветаў. Людзі наракаюць, што іх прадстаўнікі адразу ж пасля абрання знікаюць бяз знаку і да наступных выбараў пра іх нічога не чуваць. Выбаршчыкі цалкам не абазнаныя наконт дзейнасці свайго дэпутата, і ў іх адсутнічае вера ў тое, што абраны дэпутат можа якімсьці чынам паўплываць на вырашэнне іхных турботаў. Па-трэцяе, часам адчуваецца насцярожанасць наконт прапановаў да дэмакратычных зменаў; гэта тлумачыцца тым, што людзі ня хочуць быць уцягнутымі ў чыесьці палітычныя гульні, што ўжо здаралася неаднойчы ў нашай сучаснай гісторыі. Зняверанасць – галоўная перашкода на шляху грамадскіх ініцыятываў, але мы яе мэтанакіравана пераадольваем, і ўжо можна гаварыць пра станоўчыя зрухі ў гэтым накірунку.


РАЗАМ Дзмітрыя КУХЛЕЯ

КЛОПАТ МОЛАДЗІ АБ СВАІМ ГОРАДЗЕ

*Бюлетэнь “Разам” Зміцер Кухлей выдае самастойна. У выданні апавядаецца пра дзейнасць мастоўскага дэпутата.*

Наша праца па збуджэнні грамадзянскае актыўнасці – не што іншае, як нязгода з цяперашняй сітуацыяй, калі сённяшняе кіраўніцтва варожа ставіцца да любой творчай праявы людзей і бачыць у ініцыятыве грамады ці асобы пагрозу свайму існаванню. Пры гэтым мы дзейнічаем у межах сучаснага беларускага заканадаўства і пратэст наш мае даволі міралюбную форму – ён ёсць творчае пераадоленне бяздарнасці і нікчэмнасці сённяшняе наменклатуры. Пакаротцы ідэю нашае ініцыятывы “Разам” можна сфармуляваць наступным чынам: усе мы, жыхары свайго рэгіёну – і дэпутаты, і выбаршчыкі, і прадстаўнікі наменклатуры... – сутыкаемся з аднолькавымі праблемамі, якія можна плённа вырашыць на сваю карысць уласнымі сіламі, аб’яднаўшы намаганні.

***– Дык можа, увогуле, варта распусціць інстытут дзяржаўнае ўлады ды цалкам перайсці на самакіраванне?***

– Аснова моцнай, развітай дэмакратычнай дзяржавы – народ, а асаблівасць дэмакратычнае ўлады ў тым, што яна здзяйсняецца ў інтарэсах народу. Іначай кажучы, у задачы дэмакратычнай дзяржавы ўваходзіць спрыянне развіццю творчых ініцыятываў грамадзянаў, самакіраванню, паколькі дэмакратычная дзяржава грунтуецца на гэтых творчых народных асновах.

Я памянуў станоўчыя вынікі нашае кампаніі "Разам". Ёсць проста ашаламляльныя прыклады плёну праз актыўнасць людзей, аб'яднаных агульнай мэтаю. У сваёй дэпутацкай дзейнасці, напрыклад, давялося вырашаць праблему атаплення шматкватэрнага дому. У халодную пару году значная частка кватэраў дому № 11 па вул. Будаўнікоў не абагравалася належным чынам, у той час, калі ў астатніх кватэрах было над'звычай цёпла. Жыхары халодных кватэраў скардзіліся ў камунальныя службы, прасілі дадаць ім цяпла. Калі цяпло ім падавалася, пачыналася невыносная гарачыня ў цёплых кватэрах. Гэткае становішча цягнулася гадоў каля пятнаццаці, пакуль нарэшце мы ўсе не аб'яднлі намаганні: людзі сабралі подпісы, а я як дэпутат звярнуўся са зваротам у адпаведныя інстанцыі. Высветлілася, што праблема вырашаецца вельмі проста: пры будаўніцтве дома ў цеплалінію была ўвараная труба іншага дыяметру, чым той, якога вымагаў праект – замена трубы была зробленая за адзін дзень. Пятнаццаць гадоў людзі жылі са сваёй праблемай кожны паасобку, хаця клопат гэты можна было вырашыць вельмі хутка – адно трэба было аб'яднацца ўсім разам. У выніку выйгралі ўсе: людзі атрымалі людзкія ўмовы, эканомію сродкаў, камунальнікі ашчадзілі расходы цяпла, дзяржава аднавіла парушанае права на годнае жыццё і ў канкрэтным выпадку рэалізавалася агульнадзяржаўная палітыка, скіраваная на энэргазберажэнне ...

Вялікія плюсы мясцовае грамадзянскае ініцыятывы ў тым, што мы сумесна ствараем дабрабыт і гісторыю самі для сябе. Вось неяк да мяне звярнулася мастаўчанка Наталля Біліда з прапановаю абсталяваць у двары мікрараёна дзіцячую пляцоўку. Сабраліся з жыхарамі, вырашылі шукаць сродкі і працаваць самастойна. Наталля як каталічка прапанавала звярнуцца па дапамогу да касцёла, што мы і зрабілі. Нас уважліва выслухаў ксёндз Рычард, які пасьля звярнуўся да прыхаджанаў з просьбай аб дапамозе, за што я яму вельмі ўдзячны. Працавалі ўсе разам у вольны час. У гэтай супольнай працы была запатрабаваная ініцыятыва кожнага чалавека – улічваліся парады нават зусім маленькіх дзяцей, якім бавіць час на пляцоўцы. Урэшце мы распачалі будаўніцтва дзіцячага кутку, якога так не хапала ў двары. Гэтага немагчыма было б дасягнуць, калі б мы спадзяваліся выключна на камунальныя службы гораду. Хаця камунальшчыкі нам дапамагаюць: транспартам для падвозкі матэрыялаў, пафарбавалі арэлі, дзіцячы "паравозік", лавы. Але ж я сумняюся, што калі б і ўдалося знайсці сродкі ў сціплым гарадскім бюджэце, дык пры будаўніцтве пляцоўкі была бы ўлічаная думка бацькоў і дзяцей – усё роўна мы бы сутыкнуліся з казённым падыходам да справы. Ніхто так не зацікаўлены ў камфортным, годным нашым жыцці, як мы самі.

***– Новыя падыходы ў вырашэнні мясцовых справаў, відаць, вымагаюць нейкіх нестандартных крокаў?***

– Я не скажу, што зварот да грамадзянскае ініцыятывы – гэта штосьці прынцыпова новае. Гэткая зьява існавала і раней ды прыносіла свой плён. Проста раней падобныя ініцыятывы сутыкаліся з неверагоднымі цяжкасцямі. Вось мы нядаўна на Мастоўшчыне грамадою ўшаноўвалі памяць нашага прынёманскага паэта з трагічным лёсам Міхася Явара. Традыцыя








***Сайт Зміцера Кухлея стала папаўняецца новымі матэрыямі. Тут зьмяшчаецца інфармацыя паводле дэпутацкае дзейнасці Зміцера Кухлея, асвятляецца ход грамадзянскае кампаніі "Разам", публікуюцца дэпутацкія запыты, звароты, перапіска з установамі, арганізацыямі, адказнымі асобамі.***

гэткага ўшанавання спачатку паўстала як прыватная ініцыятыва – праз рупнасць беларускага адраджэнца, настаўніка Гудзевіцкай сярэдняй школы Алеся Мікалаевіча Белакоза, які самавольна адшукаў магілу паэта, паставіў на ёй помнік ды прысвяціў Міхасю Явару экспазіцыю ў створаным самастойна музеі. Гэта адбывалася яшчэ за савецкім часам, у семідзесятых гадох мінулага стагоддзя, сустракала супраціў сістэмы і вымагала ад чалавека вялікай мужнасці. А сямнаццаць гадоў таму назад дэпутаты мясцовага Савету ў Луне Мастоўскага раёну вырашылі перайменаваць імем Міхася Явара вуліцу, па якой хадзіў паэт – і гэта таксама быў у той час нестандартны крок. Увогуле, постаць Алеся Мікалаевіча Белакоза зьяўляецца яскравым прыкладам дзейснасці, вялікай жыццёвасці грамадзянскае ініцыятывы. Дзякуючы асабістым творчым захадам Алеся Мікалаевіча сёння беларускія народ і дзяржава маюць у Гудзевічах Мастоўскага раёну беспадобны Літаратурна-краязнаўчы музей, якому нададзены статус дзяржаўнага музею і які ёсць сапраўдная духоўная скарбніца нашага народу. Нямала зроблена Алесем Мікалаевічам для нашых людзей і ў часе ягонага дэпутацтва ў Гародзенскім абласным Савеце народных дэпутатаў. Прыклад дзейнасці Алеся Мікалаевіча сведчыць пра велічнасць творчае асобы, пра тое, што нават у самых неспрыяльных умовах можна дасягнуць велізарнага поспеху, адстойваючы чынна, справамі, свае перакананні. І гэты ж прыклад паказвае, як шмат мы можам дасягнуць, калі будзем дбаць пра спрыяльныя ўмовы дзеля рэалізацыі нашых ініцыятываў да працаваць супольна, грамадою. Зараз я шчыльна супрацоўнічаю яшчэ з адным былым дэпутатам Гародзенскага аблсавету Васілём Білідам, які стварае дамавы камітэт у Мастах. Думаю гэты вопыт будзе запатрабаваны шмат дзе ў нашым горадзе.

Сёння з дэпутатаў нашага раённага Савету ў гэтым накірунку мэтанакіравана, плённа, у шчыльным узаемадзеянні з людзьмі працуе Аляксандр Пудаўкін. Ён бачыцца з выбаршчыкамі, жыве іхным клопатам і шчыра падтрымлівае грамадзянскія ініцыятывы, што раз-пораз узнікаюць у нашым рэгіёне. Што датычыцца мяне, дык я стала наведваю вёскі, завітваю ў дамы нашага гораду і сустракаюся з людзьмі – і з гаражанамі, і з вяскоўцамі. За паўтара гады дзейнасці ў якасці дэпутата раённага Савета я падрыхтаваў і накіраваў у мясцовыя ворганы кіравання, самакіравання, дзяржкантролю, пракуратуры, міністэрства ўнутраных справаў больш за шэсьдзесят запытаў, зваротаў, прапановаў. Усе яны ўзніклі пасля гутарак з нашымі людзьмі, і галоўная мэта гэтых зваротаў – паляпшэнне якасці жыцця грамадзянаў.

***– Ты валодаеш некалькімі мовамі, але ў жыцці карыстаешся беларускай. Па-беларуску выдаеш сваe***

***справаздачы “Разам” і папаўняеш свой сайт. Чаму беларуская мова для цябе прыярытэтная?***

– Свабода – вялікая сіла. Калі свабода абуджаецца ў бездухоўным грамадстве, дык гэтая сіла робіцца разбуральнай і небяспечнай. І наадварот, духоўная сталасць грамадства надае гэтай сіле высокія стваральныя матывы. Сёння ў нашым грамадстве ідзе пошук маральных асноваў, якія ў будучыні маглі бы стаць тым духоўным апірышчам народа, што здольны выкарыстоўваць свабоду дбайна і стваральна, на карысць грамадству і кожнаму грамадзяніну, і – мне, напрыклад, зразумелыя і блізкія ідэйныя пошукі беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў на чале з Паўлам Севярынцам. Я сам па веравызнанню праваслаўны хрысціянін, але ж стаўлюся з прыхільнасцю да ўсіх канфесіяў, што існуюць у Беларусі. Сучасныя хрысціянскія маральныя прынцыпы – гэта чалавечы духоўны досвед, які фармаваўся цягам тысячагоддзяў. Вельмі важна сёння, у часе разгубленасці і паняверкі, ня страціць гэтае багацце, адшукаць у сабе Бога, як вельмі важна не забыцца на Бога, на высокія духоўныя каштоўнасці ў будучыні – у хвіліны аквітнасці і заможнасці.

Мова – гэта таксама пытанне нашае духоўнасці. Як мы ставімся да гісторыі, да культуры, да сваёй Радзімы, да саміх сябе і да іншых людзей... – праблема мовы ахоплівае ўсе нашыя асновы. У кожным з нас ці свядома, ці падспудна жыве гэтая беларуская драма страчанай, забароненай нашай нацыянальнай духоўнасці, нацыянальнай чалавечай годнасці. Сустракаючыся з людзьмі я часта чую шкадаванне ад чалавека з прычыны таго, што ён ня можа, ня ўмее гаварыць па-беларуску. Для многіх людзей гэта балючае пытанне, яны хацелі б размаўляць на мове продкаў, але ня маюць такіх умоваў – добрай школы, якая бы іх гэтаму навучыла, чулага моўнага асяроддзя, дзе быў бы пачуты іх голас. Гэты спрадвечны беларускі боль – таксама прычына для нашых сумесных творчых ініцыятываў. Разам, грамадою мы здатныя ажыццявіць усе нашыя надзеі, пераадолець нашыя спрадвечныя ганьбу і боль, зрабіць гэтак, каб нашая родная мова выклікала ў кожным з нас чалавечы гонар і сталася сапраўдным духоўным падмуркам нацыі.

*Гутарыў Лявон Вашко*




*Зміцер Кухлей. Масты, 6 жніўня 2008 году. Здымак Уладзіміра Каўшовіка.*



**Жыварыс**

# ЗЬЯВАГЛЫБІНЯ

***рацэнзія***



*Малюнак Анатоля Гармазы (кніжка “Беларусы смяюцца”).*

***“Беларусы смяюцца”. Карыкатуры, гумар. Укладальнікі Алена і Вечаслаў Кліменкі. Менск: “Мастацкая літаратура”, 2006. – 407 с.***

Разгарнуўшы кніжку “Беларусы смяюцца”, прыгадаўся дружа “Вожык”, дзе напачатку дзевяностых гадоў патрапіла мне працаваць у аддзеле фельетонаў карэспандэнтам. Мастацкі аддзел часопісу ачольваў у тым часе Анатоль Гармаза, а мастацкім рэдактарам працаваў Юрый Рыжыкаў, якога ня стала ў 2001 годзе – ён памёр заўчасна, у саракагадовым веку.

Мастацкі аддзел рэдакцыі быў асаблівы: хаця асноўны акцэнт у канцыпцыі часопісу прылягаў на літаратурную частку – фельетоны, вершы, гумарэскі... – але чытачы, як правіла, спачатку глядзелі ілюстрацыі, і толькі пасля прагляду малюнкаў пачыналі чытаць тэксты; такім чынам, ілюстрацыі да літаратурных твораў паспяхова “спаборнічалі” з самімі літаратурнымі творамі.

Акрамя ўсяго, мастацкі аддзел вызначаўся неўяснёнай, парадаксальнай глыбінёю ўласных межаў – абыклыя рэчы ў кабінеце поўніліся метафарычнай свабодаю ўнутраных зьяваў, неверагодных і нялічаных. Вынаходлівасць, якая ніколі не адпачывала ў мастацкім аддзеле, тварыла казусныя формы часу, у якім сюжэты рэальнасці зліваліся з забаўным, “мультыплікацыйным” сусветам карыкатураў: звычайныя нажніцы тут неспадзявана маглі выканаць функцыю адсутнага нажа і зрабіцца інструмантам для нарэзкі сасіскаў пад тост за дружу “Вожыка”, а кітайскія акварэлі на вачох ператварыцца ў месячны праездны квіток на трамвай... Зачараваная абыдзённасць тут была ўваходам у залюстэрны свет; так пачынаюцца казкі – са збуджэння ў абыклых, зазвычаеных прадметах іхнае жывое глыбіні.

Шмат якія малюнкі з кніжкі “Беларусы смяюцца” пабывалі й у кабінеце мастацкага аддзелу “Вожыка” ды генятычна сувязаныя з ягонымі казачнымі дзівацтвамі; яны – адлюстраванне акурат таго жывадзіўнага ўнутранага свету, што бязмежна адбываецца ў нудных, аднастайных, акаржэлых формах. Напоўненыя пакрыёмымі сіламі метафізікі карыкатуры адчыняюць уваход у пазазвыкласць, вядуць гледача ў патайную рэчаіснасць і знячэўна ўражваюць шчырасцю падспуднае праўды, якая існуе ў схованках наваколля і да якой мы сляпые да пэўнае пары. У малюнках кнігі “Беларусы смяюцца” паблажлівыя, іранічныя ўсмешкі мастакоў суседзяць з фенаменальнымі філасофскімі адкрыццямі, вонкавы імклівы абсурд з вечнай глыбінёю мудрасці, усвядомлены свет рэальнасці з неўтаймаванымі прыхамацямі падсвядомасці...

Аўтары малюнкаў – зналыя беларускія карыкатурысты, удзельнікі шматлікіх міжнародных прэстыжных конкурсаў. Іх творы публікаваліся ў розных рэспубліканскіх выданнях, на старонках часопіса “Вожык” і за межамі Бацькаўшчыны; а пасля

таго, як Анатоль Гармаза заснаваў газету “15 сутак”, творы мастакоў стала атайбаваліся і ў новым выданні.

Спачатку, як вядома, было слова, і спачатку яно было голасам, а потым сталася тэкстам... Маляўнічы вобраз – мяжа між свабодаю гуку і тэкставым прыгонам; з аднога боку малюнак увідавочніў гук, зрабіўся напісанасцю, а з іншага боку – ён ашчаджае ў сабе адпачатную свабоду прамаўлення, пазбягае літаральнасці. Карыкатуры мастакоў можна ўмоўна суаднесці з тым даўнім сакральным актам словапаказу, дзе эстэтыка і логіка яшчэ не разгалінаваліся і ўяўляюць з сябе цэласць. Карыкатуры – то наскальны жывапіс сучаснасці, яны родасувязаныя з даўняй пачатковай першасвабодаю гучання, ператворанай энэргіяй творчасці ў сімволіку душы. Пры ўсёй знешняй простасці тэхнікі выканання здзейсніць магічную святадзею вельмі нялёгка – гэта патрабуе таленту і вялікіх вымогаў. Насмрэч гэта над’звычай рэдкі дар, і, як і ў дагістарычныя часы, далёка ня кожны можа ім авалодаць. Напэўна, таму падобны жанр прыцягвае ўвагу шматлікае аўдыторыі; ён здольны хваляваць і ўражваць гледача, уздзейнічаць на асобу і грамадства з няменшай сілаю, чымся больш аб’ёмістыя творы выяўленчага мастацтва.




Кніжка “Беларусы смяюцца” пабачыла свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура” аб 2006 годзе. У кнізе змешчаныя малюнкі вядомых сучасных беларускіх карыкатурыстаў: Анатоля Гармазы, Мікалая Гіргеля, Аркадзя Гурскага, Алега Гуцола, Віктара Дубовіка, Даніла Каладзінскага, Алега Карповіча, Аляксандра Каршакевіча, Вечаслава Кліменкі (старэйшага), Вечаслава Кліменкі (малодшага), Васіля Ключніка, Пятра Козіча, Алега Папова, Андрэя Пучканёва, Леаніда Разладава, Юрыя Рыжыкава, Юрыя Тыліндуса, Віктара Хаткоўскага, Рамана Шыка, Паўла Шычка.

Аўтары-укладальнікі Алена і Вечаслаў Кліменкі. Аўтары сяброўскіх шаржаў – Анатоль Гармаза, Мікалай Гіргель, Алег Гуцол, Алег Карповіч, Аляксандар Каршакевіч, Леанід Разладаў, Павел Шычко. Рэдактар Л. Калюжная. Мастацкае афармленне – А. Папоў. Мастацкі рэдактар К. Ракіцкі. Тэхнічны рэдактар Л. Зубец. Стылістычныя рэдактары Д. Лосік, А. Анцытовіч. Кніжка выйшла зборам у 2 000 асобнікаў. Надрукаваная ў Менску ў рэспубліканскім вунітарным прадпрыемстве “Беларускі Дом друку”. Спонсарамі кніжкі выступіў шэраг прадпрыемстваў і ўстановаў Беларусі.

## БЕЛАРУСАСМЕШКІ

### Малюнкі з кніжкі “Беларусы смяюцца”



*Малюнак Мікалая Гіргеля.*



*Малюнак Аркадзя Гурскага.*



*Малюнак Алега Гуцола.*



*Малюнак Данілы Каладзінскага*



*Малюнак Віктара Дубовіка.*



*Малюнак Аляксандра Каршакевіча*



*Малюнак Алега Карповіча*



*Малюнак Вечаслава Кліменкі (старэйшага).*



*Малюнак Вечаслава Кліменкі (малодшага).*



*Малюнак Васіля Ключніка.*

Малюнак Пятра Козіча.




Малюнак Алега Папова.





Малюнак Андрэя Пучканёва.



Малюнак Леаніда Разладава.

Малюнак Юрыя Рыжыкава.





Малюнак Віктара Хаткоўскага.



Малюнак Рамана Шыка.



Малюнак ЮрыяТыліндуса.

Малюнак Паўла Шычка






# ПЯТНАЦЦАЦЬ СУТАК – ПАЖЫЦЦЁВА



## Твораспакмета

***Дваццаць першага кастрычніка 2008 году Лявон Вашко завітаўся ў Менску ў рэдакцыю газеты “15 сутак”, дзе рэдактар Анатоль Гармаза падарыў некалькі нумароў газеты (“15 суток”, на рускай мове (№ 9 за 2007 год, №-№ 9-10 за 2008 год). Галоўны рэдактар Анатоль Гармаза, вёрстка – Вольга Казлова, карэктура Вольга Касцюшова. Выходзіць раз на месяц. Збор 19 450 асобнікаў. 220047, а/я 257, “15 сутак”. Т. 203-59-06. Дзецям да 16 гадоў не рэкамендуецца.***

**Смехапокліч.**З кайданоў прыгоннае рэчаіснасці й ізалятараў кайданнае звычайшчыны смехакліча ў свабоду рогату газета “15 сутак”. “КАЗАЧКА. Жыў-быў Мальчыкспальчык. Вырас ён і стаў Дзядзясруку.”


ЮМОРИСТИЧЕСКАЯ ГАЗЕТА
BY ДЕТЯМ ДО 16 ЛЕТ НЕ РЕКОМЕНДУЕТСЯ!
15 СУТОК
Минск • пр-т Победителей, 5
9
СЕНТЯБРЬ 2008
КАРИКАТУРЫ
ПРИКОЛЫ
АНЕКДОТЫ
Газета для веселья, раскрепощения, снятия усталости и стресса.


*Анатоль Гармаза нарадзіўся 15 снежня 1955 году ў вёсцы Навасады Дзяржынскага раёну. Скончыў менскую мастацкую вучэльню імя Аляксея Глебава. Служыў у шэрагах Савецкае Арміі, у паветраным дэсанце. Працаваў мастацкім рэдактарам у часопісе “Вожык”, шэф-рэдактарам газеты “Пікнік”. Узначальвае таварыства з абмежаванай адказнасцю “Рэдакцыя газеты “Шапакляк”. Зьяўляецца галоўным рэдактарам газеты “15 сутак”. Займаецца выдавецкай дзейнасцю. Карыкатуры Анатоля Гармазы паказваліся ў шмат якіх краінах свету.*

## *Некалькі малюнкаў Анатоля Гармазы з газеты “15 сутак”*



















*Анатоль Гармаза ў рэдакцыі газеты “15 сутак”. Менск, 21 кастрычніка 2008 году.*





*Эпіграф*

# АПРАНУТЫ КАРОЛЬ



*Малюнак Анатоля Гармазы ўзяты з газеты “15 сутак”.*

***Апрануты кароль***

Голас нейкае малечы
Звонка звягнуў недарэчы:
“А кароль жа – неадзеты!
Вунь звісае штука гэта!..”
Лепш, малеча, памаўчы:
Не звісае, а – тырчыць...
Дый, навогул, штука гэта
Па ўсіх правілах адзета:
Стыльна, цёпла – не іначай
Ад Кардэна і Вярсачы.
І адзета штука гэта.
І абута, і наета...
Лепш, малеча, кінь дурное –
Пра цара казаць такое.
Хіба ж ты ня бачыш, дзетка,
Што на рэчы той – шкарпэтка,
З каралеўскага заробку
Там трусы сядзяць “убобку”,
Нагавіцы і кальсоны –
Наймаднейшага фасону,
І надзейна даўгі фрэнч
Прыкрывае тую рэч...
Крыюць розныя парцянкі
Караля неспадзяванкі,
І кажух з каракуля
Крые штуку караля...

У параўнанні з ім, малеча,
Мы – сапраўдная галеча,
Як адзін усе чыста –
Нацыя нудыстаў:
Зіхцім попай, бляха,
Як пад сонцам бляха.

***Калыханка***

Спі спакойна, мужычок,
Адпачне хай мазжачок.
Усе даўно навокал спяць,
Дык і ты спі, тваю маць.
Спяць рахманыя дзядулі,
І бабулі ўсе паснулі,
І, прадаўшы жыта як,
Храпіць храпам маладняк,
Спяць у вёсцы трактарысты,
У выдавецтвах – публіцысты,
Спяць дзяржаўныя паэты,
Творчыя інцелягенты,
І снапом зваліўся ўраз
Зморaны рабочы клас...
А табе ня спіцца х’юлі?
Баю-баю, люлі-люлі...

Як у пушчы зубраня,
Засынай, мужчына, бля.

***Труба***



*Малюнак Анатоля Гармазы ўзяты з газеты “15 сутак”.*

Цераз задні ход пацан
Выпусціў з сябе мятан:
Спадарожным газам едкім
Задрабацеў у табурэтку.
Падае пацан нам повад
У попы весці трубапровад
І там жа ставіць венцяля
Эканоміі дзеля.
Талакой збярэмся разам
Ды напоўнім трубу газам,
А разам з газам стрэлім з заду

Мы прадуктамі распаду.
Мо яно неэстэтычна,
Аж зато – тэхналагічна:
У разьём адразу ж з цела
Смела вугаль пойдзе ў дзела
Трубаправодам
гэтакім
Прамком
у энэргетыку.
Пабяжыць газ проста з попы
Экспартам на ўсю Яўропу –
Усіх пракорміць нахаляву
Беларускае ноў-хаву.
Як нажмемся ўсім народам,
Папруць вуглевадароды,
Пачнем сраць
без перапынку –
Пахіснецца індэкс рынку:
Пойдзе як гаўно па трубах,
Ляжа долар, фунт дасць дуба...

Мухам мы не аддамо
Задарма сваё дзярмо.
Перавядзем усё
да каліва
На мясцовыя
віды паліва!

### *Цэнтр Яўропы*

На праспекце
ў цэнтр сталіцы
Падсадзіў ён ягадзіцы –
Цэнтрам хітрай сваёй попы
Сеў на самы цэнтр Яўропы.
Праз будынак мэблю скрозь
Пралягае тая вось:
Ляжыць проста праз дыван
Нулявы мерыдыян
І цэнтрам сваім кратае
Цэнтр еўраэкватара...
Ляжыць мяккі дыванок,
На ім – мяккі вугалок,
Дык праз мяккі вугал вось
Тырчыць еўрацэнтру вось.
Ягадзіцамі як сядзе
Хітрапопа на вось дзядзя,
Едзе вакол хера
Уся зямная сфера,
Еўрапейская прастора
Едзе вакол памідораў...
З сельсаветам і з калгасам,
І з буфетам, і з “збяркасай”
Едуць і рублі, і еўры
Вакол восі еўрахера,
Едуць “бэнцы”, лімузіны,
Рэстараны, магазіны,
Танкі, самалёты,
Фабрыкі, заводы...

Хаця можна і абасрацца,
Ды шмат хто лезе пакатацца...

### *Заатэхнічная рапсодыя*

Загудзелі ўрапт лясы
У свіныя галасы.
Брыгадзір на трактары
Ім падпеў па матары.
Трактар, як і брыгадзір,
Уаднаголас:
Дыр-дыр-дыр!..
Сракі нечыя зайшліся:
Дрысь-дрысь-дрысь!
Адгукнулася зямля:
Бля!




*Малюнак Анатоля Гармазы ўзяты з газеты “15 сутак”.*







*Малюнак Анатоля Гармазы ўзяты з газеты “15 сутак”.*

Сцыбятуха бздптуха сцыць
Сцыбятнула, сцуха:
Сцы-ы-ы-ы-ы-ы-ы-ы-ыць!
Як у пысу каравяк,
Штосьці:
Чвяк!..
Прэ ў нутро рапсодыя
Рапсавай мялодыяй –
Аж хапае за папца
І прабірае да пупца...

За папца бярэ папса,
Калі шмат у ёй рапса...

### *У горадзе Сочы цёмныя ночы*

Амаль памацаў за каленку
Ён Валянціну Матвіенку,
Аднак аднойчы ноччу ў Сочы,
Як бык, на плечы нехта скочыў.
Насеў на зад яму мядзведзем
Мядзведзь
з мянушкаю Мядзведзеў,
Падмог мадзведзю
ў вузкім куце
Другі мядзведзь
з мянушкай Пуцін.
Такая ноч, нібы пад чаркай
Ён заблукаў у заапарку,
І – лезе звер у бруха хіжа
Паміж канькоў і паміж лыжаў...
Скруцілі рукі, згнулі пяты
Мядзведзі – лесу дэмакраты:
Стаіць ён, як на старце, ракам
На тым ігрышчы звералакаў
І адкрывае ў Сочы задам
Мядзведзяў ігр алімпіяду.
У цёмнай сочынскай бярлозе
Стаіць на старце ў рака позе,
Стаіць і чуе ззаду недзе,
Як штось кудысь даюць
мядзведзі.
Як штось кудысьці надавалі,
То ўжо яму і не да Валі,
І не да Валіных каленаў,
Як штосьці ўставілі ў два
члены.
Як зверам зверы ўлезлі
ў дзіры,
То ўжо і сам ён – голуб міру:
Зрабіўся добрым мудрым
птахам,
Як задам сеў мядзведзю на...
лапуй...
Ці можа байка мець мараль,
Як зад таўкуць ды труць
арал?
Мараль, вядома ж, не ў
маралі,
А, як ня дзіўна, у арале...
І, як ня дзіўна, у анале –
Мараль у тым, што зад
намялі...

І на вушлага бацьку
Ёсць з ялдою дзядзькі...




*Малюнак Анатоля Гармазы ўзяты з газеты “15 сутак”.*

## *Мяккія хлопцы*

З хлопцаў тых ня зробіш
гвоздзі –
Надта ж мяккія ў іх косці,
Дрыблаваты калаген –
Не ўздымаюцца з кален.
Нельга давяраць ім дзела –
Надта ж пульхнае ў іх цела.
Ну, якія з іх цвікі?..
Адным словам – гаўнюкі.
Каб набыла форму мяккаць,
Можа ззаду шворан
ўставіць? –
Касцявістую храбціну
У таўстую жывaціну?..
Каб збудзіўся дух маральны,
Штось загнаць у ход
анальны?..
Уставіць арматуру
Скрозь усю натуру?..
Мо й распраміцца паэт,
Праз анальны той хрыбет...

Ды, відаць, усё дармо,
Бо дзярмо і ёсць – дзярмо.

## *Уе*

Калі даць яму уе,
Ён паскачыць на гмуе,
Крутанецца на гмую
Ён за гэтую ую.
Зразумела, нагмуя
Яму гэтая уя,
Але навошта ж, ёма-ё,
Яму гэтае гмуйё?
Нагмуя яму гмуі
Ды за гэтыя уі?..
На любы гатовы гмуй
Лезці ён за кожны уй:
Столькі іх, што аж аёй –
Тых уе ды з той гмуйнёй...
Е уе, ён – на гмуе...
Хаця ахвотна
Возьме і эрбэ банькноты.

Ё рублё, ён – на гмуё...

## *Рызыкант*

Бура неба хмарай крые,
А ён – брытвай яйцы
брые...


*Малюнак Анатоля Гармазы ўзяты з газеты “15 сутак”.*

## *Мальчык*

Сярод дня на Клары Цэткін
Ён пазбыўся раптам цэлкі:
Нехта ў попу ўставіў пальчык,
І – быў мужчына, а стаў
мальчык.
Быў мужчынам, стаў кабетай
Праз у попе пальчык гэты.
Быў пяюн красы ён чыстай,
А стаў шансоннаю артысткай...
Капітальна спорціў хлопца
Пальцаў акт нечыстаплоцкі –
Чалавечай душы годнасць
Ён прывёў у непрыгоднасць...

Быў паэт-бунтар той мальчык,
А цяпер – у попе пальчык.

Брые яйцы гэты шкет
Гострай брытваю “жылет”.
Будуць яйцы “чыкі-чыкі”,
Заблішчаць яны, як флікер,
Зіхатнуць красою годна –
Хоць на пашпарт рабі фота.
Тым “жылетам” ды па
жылах
Голіць яйцы ён бяз мыла:
Рызыкоўна чапурыцца –
Аж свярбіць у ягадзіцах...
Ягадзіцаў папярок
Прабягае халадок,
Штосьці чуюць ягадзіцы,
А ён – галіцца ды галіцца...
Похмуй бура з неба цемрай,
Як лязо казыча нервы.
Страшна нават самой буры
Глядзець з неба верхатуры,
Як “жылетам” ён па скуры
Пад кадык бярэ Амура.







*Малюнак Анатоля Гармазы ўзяты з газеты “15 сутак”.*

Страшна небу ў неба яйцы
Атрымаць сярпом знянацку,
Страшна небу абясхмарыць,
Абязбурыць, абязмарыць,
Страшна небу абязверыць,
Абез’яйчыць, абясхерыць...
Напужаўся нават Бог
Страціць штосьці паміж ног...
А ён – з размаху яйцы голіць,
Бы сякерай дровы коліць.
Узяў за скабы ён самога
Напалоханага Бога:
Кулаком за бараду
Ды “жылетам” – пад ялду...
Сунуў брытву пад пахвіну
У імя Айца і Сына
І варушыць, бляха-муха,
У імя Святага Духа...
Не баіцца ён нікога –
Ані чорта, ані Бога,
Ані неба, ані хмары,
Ані брытвы, ані кары...
Вось прыцэліўся нарэшце
Бог ялдой яму ў лабэшнік,
А ён, дурыла – не баіцца,
І галіцца... і галіцца...

Ой, паставіць дрывасека
Бог у позу гамасека...


*Малюнак Анатоля Гармазы ўзяты з газеты “15 сутак”.*

# БУЛЬБА

***Не было каб бульбы,***
***Працягнулі хюй бы.***